№ 33 (3876)

3 мая 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Парада не будзе

Традыцыйнае шэсце ў гонар Дня Перамогі адбудзецца 9 мая ў Мінску. Парада не будзе. Пра гэта журналістам паведаміў начальнік упраўлення інфармацыі Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы Міністэрства абароны Беларусі **Уладзімір Макараў.**

Шэсце пройдзе з 10.00 да 11.00 па праспекце Незалежнасці і завершыцца ўскладаннем кветак і вянкоў да манумента Перамогі. Пачнецца шэсце ад скрыжавання праспекта Незалежнасці і вул. Янкі Купалы.

Сваё майстэрства гледачам прадэманструе асабісты склад роты ганаровай варты.

Урачыстасці ў святочны дзень пройдуць па ўсёй краіне, а завершыць іх у 22.00 салют.

**ГАРАЧАЯ КРОПКА**

# Палыхнула...





Раніца 2 мая пачалася з паведамленняў пра вайну. Ва ўкраінскім горадзе Славянску, які некалькі тыдняў знаходзіўся пад кантролем сепаратыстаў, пачалася антытэрарыстычная аперацыя. "Мірныя пратэстоўцы", як іх называюць расійскія СМІ, аказаліся настолькі "мірнымі" і "няўзброенымі", што здолелі збіць два вайсковыя верталёты. І ўсяму свету зразумела, што не валёнкамі яны кідалі па верталётах, а мелі самую сучасную зброю.

Сапраўдная антытэрарыстычная аперацыя пачалася пасля таго, як угаворы, пагрозы, абяцанне амністыі для сепаратыстаў не далі плёну. Больш за тое, прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін выказаў меркаванне, што Украіна павінна вывесці свае войскі з мяцежнага рэгіёна. Іншымі словамі, добраахвотна, без стрэлаў аддаць яго пад расійскі кантроль. У сваю чаргу многія еўрапейскія палітыкі раілі афіцыйнаму Кіеву не чакаць, што Пуцін адумаецца, і бараніць краіну ўсімі магчымымі сродкамі, у тым ліку — з прымяненнем зброі. Раніцай 2 мая ўкраінская армія пачала вяртаць горад пад свой кантроль. Аперацыяй кіруе асабіста начальнік Службы бяспекі Украіны Валянцін Налівайчанка (дарэчы, у свой час ён працаваў паслом Украіны ў Беларусі).

На момант здачы гэтага нумара ў друк поўнай інфармацыі пра загінуўшых і параненых не было. Паведамлялася толькі, што дакладна загінуў экіпаж аднаго са збітых паўстанцамі верталётаў.

Узятыя ў закладнікі прадстаўнікі місіі АБСЕ вызвалены не былі. Як высветлілася, калі пачаўся штурм, іх некуды вывезлі.

Украінская армія вярнула пад свой кантроль значную частку Славянска і вылучыла ўльтыматум тым сепаратыстам, якія не паспелі збегчы. Умова простая: здаць зброю, вызваліць закладнікаў і адміністрацыйныя будынкі ўзамен на амністыю для тых, хто не здзейсніў крывавых злачынстваў.

МЗС Расіі абурыўся тым, што ўкраінская дзяржава вырашыла вярнуць Славянск пад свой кантроль. Знешнепалітычнае ведамства краіны, якая яшчэ нядаўна руйнавала тую ж Чачню каўровымі бамбардзіроўкамі, не разбіраючы, дзе мірныя людзі, а дзе — баевікі, абурылася "карнай" аперацыяй украінскіх сілавікоў. Аднначасова Расійская Федэрацыя абвясціла, што выходзіць з "жэнеўскіх пагадненняў" па ўрэгуляванні сітуацыі ва Украіне.

Якіх навін з зоны канфлікту чакаць у бліжэйшыя гадзіны і дні — невядома. Эксперты не выключаюць, што сапраўднай вайны.

Хто пасля Другой сусветнай вайны мог падумаць, што Расія будзе засылаць ва Украіну сваіх дыверсантаў, забяспечваць іх зброяй і палітычным прыкрыццем, што Украіна і Расія апынуцца ў стане вайны?.. І што бараніць украінцаў ад "брацкага расійскага народа" прыйдзецца Германіі ды іншым краінам "варожага Захаду"?..

**Ігар МАРОЗАЎ.**



**МЕРКАВАННЕ**

## На чарзе?

*Пасля Украіны Пуцін захопіць Беларусь, Казахстан і Латвію. Мэта Крамля — максімальнае адраджэнне СССР. Такое меркаванне ў інтэрв'ю PAP выказаў былы прэзідэнт Польшчы* ***Аляксандр Квасьнеўскі.***

"Пуцін не хавае сваіх намераў. У сваіх выказваннях ён закранаў тэму "Вялікай Расіі". На саміце НАТА ў Бухарэсце ў 2008 годзе ён заявіў, што Украіна з'яўляецца штучнай дзяржавай. Таксама ёсць артыкулы расійскіх стратэгаў, у якіх гаворыцца, што межы краін у Савецкім Саюзе былі акрэслены няправільна і трэба змяніць постсавецкія межы. Яны сцвярджаюць, што гэта пытанне не толькі Украіны, але і Казахстана, некаторых абласцей Беларусі і часткі Латвіі. Таксама застаецца адкрытым пытанне Малдовы, Грузіі і азіяцкіх рэспублік былога СССР. А зараз мы назіраем прымяненне гэтай дактрыны. І нават не трэба звяртацца да разведвальнай дзейнасці, каб ведаць, што мэтай Пуціна з'яўляецца максімальнае адраджэнне ўсяго, што было страчана разам з распадам СССР. Не абавязкова агнём і мячом, а "вайной хаосу". Гэта значыць палітычнымі метадамі, эканамічнай дэстабілізацыяй і ўздзеяннем праз сродкі масавай інфармацыі", — лічыць былы кіраўнік Польшчы.

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

## *Юстас ПАЛЕЦКІС:* «Трэба адкрыць Беларусі вароты ў Еўропу...»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пагутарыў з літоўскім дэпутатам Еўрапарламента* ***Юстасам ПАЛЕЦКІСАМ****, які рабіў даклад па Беларусі.*

Днямі ў Каўнасе ва ўніверсітэце Вітаўтаса Вялікага адбылася дыскусія, у якой бралі ўдзел беларускія журналісты, літоўскія студэнты, палітолагі і палітыкі.

Як украінскія падзеі адаб'юцца на Беларусі? Што чакае беларуска-еўрапейскія адносіны? Ці зменшаць для беларусаў кошт шэнгенскіх віз і калі гэта можа адбыцца? На гэтыя пытанні ўдзельнікі дыскусіі спрабавалі адказаць, пра гэта расказваў і спадар Палецкіс...

— Некалькі тыдняў таму па запрашэнні Еўрапарламента адбылася сустрэча з лідарамі галоўных беларускіх апазіцыйных партый, — распавёў дэпутат Еўрапарламента. — І мы дыскутавалі з нагоды таго, як падзеі ва Украіне адаб'юцца на ўзаемаадносінах Беларусі і Еўрасаюза. Выснова была такая: сітуацыя ўмацоўвае аўтарытэт Лукашэнкі. Але ў той жа час зазначалася, што афіцыйны беларускі лідар будзе вымушаны больш лавіраваць і абараняць незалежнасць краіны. Хоць пераход да "халоднай вайны" паміж Захадам і Расіяй не на руку беларускім уладам, бо трэба ж займаць нейкую канкрэтную пазіцыю. А калі Масква прыцісне, вядома, якая гэта будзе пазіцыя. Афіцыйны Мінск цудоўна разумее, што менавіта дзякуючы расійскім датацыям у краіне ўдалося стабілізаваць сацыяльна-палітычную абстаноўку.

**— Неяк вы сказалі, што беларуская апазіцыя даволі кволая...**

— Так, але ж кагосьці туды не прызначыш. Лідары павінны самі з'яўляцца. Дарэчы, беларускія апазіцыянеры абяцалі, што перад чарговымі прэзідэнцкімі выбарамі яны змогуць дамовіцца і вылучыць адзінага кандыдата.

**— А як аднесліся да таго, што некаторыя прадстаўнікі беларускай апазіцыі раскрытыкавалі ваш праект даклада па Беларусі?**

— Вы правільна сказалі — "некаторыя". Я лічу, што радыкальнае крыло гэтай апазіцыі іграе не самую лепшую ролю. Дарэчы, мой даклад у Еўрапарламенце быў зацверджаны практычна аднадушна — 50 галасоў "за" і толькі адзін супраць.

**— У беларускіх турмах па-ранейшаму застаюцца палітзняволеныя, а для Еўрасаюза, наколькі вядома, гэта пытанне прынцыповае. Ці вядуцца зараз нейкія перамовы па гэтым пытанні з беларускімі ўладамі?**

— Скажам так: яны ідуць. На кожнай сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай улады аб гэтым нагадваецца, і, думаю, Лукашэнка таксама разумее: калі Беларусь хоча палепшыць адносіны з Еўропай, то таксама трэба ісці на нейкія крокі. Хоць ён нядаўна і заявіў, што без прашэння аб памілаванні на волю ніхто не выйдзе.

**— Якімі вам бачацца перспектывы развіцця беларуска-еўрапейскіх адносін?**

— Калі я рыхтаваў даклад у Еўрапарламенце аб стратэгіі развіцця адносін Еўрасаюза і Беларусі, было шмат прапаноў, але галоўныя — дзве. Першая — трэба адкрыць для Беларусі ўсе вароты ў Еўропу, каб беларусы мелі магчымасць зносін з еўрапейцамі. Трэба зняць штучныя бар'еры, зменшыць кошт віз. Другая прапанова — беларуская апазіцыя была і будзе галоўным партнёрам для Еўрапарламента, але не трэба забывацца і пра ўладных чыноўнікаў, з якімі таксама трэба весці дыялог. Санкцыі былі памылковыя. Хацелі пакараць высокіх чыноўнікаў, а пакаралі простых беларусаў. Тыя ж расіяне і ўкраінцы плацяць 35 еўра за шэнгенскую візу, а беларусы — 60.

**— Калі можа быць вырашана візавае пытанне?**

— Зараз ідуць перамовы, каб кошты на візы былі зніжаны. Еўрасаюз зрабіў такую прапанову, але ўжо беларускія ўлады крыху затармазілі працэс, хоць ён і працягваецца. Ёсць добрыя шанцы, што дамовімся ўжо ў гэтым годзе.

**Алесь СІВЫ.**

*Каўнас—Мінск.*

**P.S.** *Цікавы анонс вышэйназванага мерапрыемства даў сайт "Балтийский репортер". Загаловак быў гучным — "Литва готовит идеологических диверсантов против режима Лукашенко", а тэкст не менш сенсацыйным: "В Вильнюсе, в Университете Витаутаса Великого, сегодня, 28 апреля 2014 года, откроется дискуссия на тему "Возможен ли Майдан в Белоруссии?" Мероприятие заточено на оппозиционных журналистов из Белоруссии. Подрывным технологиям работы их будут учить политологи, историки". У чыю хворую галаву забраліся думкі пра "падрыўныя тэхналогіі" і "ідэалагічных дыверсантаў", застаецца толькі здагадвацца. Праўда, каментаваць няма чаго. Дыягназ ставіць трэба...*

**ПОСТФАКТУМ**

## Беларусь нічога не атрымала

Беларусь не змагла пераканаць партнёраў па створаным Еўразійскім эканамічным саюзе адмяніць выключэнні ў гандлі нафтай. Такім бачаць незалежныя эксперты асноўны вынік перамоў прэзідэнтаў Беларусі, Казахстана і Расіі ў Мінску 29 красавіка.

Старшыня калегіі Еўразійскай эканамічнай камісіі **Віктар Хрысценка** паводле вынікаў пасяджэння Вышэйшага еўразійскага эканамічнага савета паведаміў: *"Пошліны на нафтапрадукты на сённяшні дзень з'яўляюцца прадметам двухбаковых дамоўленасцяў і да фарміравання агульнага рынку застануцца прадметам урэгулявання на двухбаковай аснове".*

Эканаміст **Сяргей Чалы** падкрэсліў: *"Гэта азначае, што мы нічога не дамагліся, ніякага агульнага рынку энергетычных тавараў не ствараецца. Наша пазіцыя аб тым, што не павінна быць ніякіх выключэнняў і перашкод, не прайшла".*

*"Выказванне аб тым, што гэтае пытанне застаецца пытаннем урадаў Беларусі і Расіі, фактычна азначае захаванне сітуацыі, калі на фоне шматбаковых дамоўленасцяў заставаўся гэты дзіўны парадак паставак нафты ў Беларусь. Паколькі не сказана аб тым, калі гэты парадак зменіцца, гэта нават не пераходны перыяд"*, — упэўнены эканаміст.

(Працяг тэмы на 2-й стар.)

**ПАД ГРАДУСАМ!**

## Быццам і не май месяц

У бліжэйшыя дні ў Беларусі захаваецца халоднае надвор'е, чакаецца мокры снег.

Сёння ўмовы надвор'я на тэрыторыі краіны будуць вызначацца полем павышанага атмасфернага ціску, сфарміраваным у халоднай паветранай масе. Прагназуецца надвор'е пераважна без ападкаў, толькі раніцай і днём у паўднёва-заходніх раёнах Беларусі пройдуць дажджы, у асобных раёнах магчымы навальніцы. Тэмпература паветра днём плюс 9—15 градусаў.

**НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!**



# Званок Няклееву



У мінулы панядзелак я знаходзіўся на пасцельным рэжыме. Хвароба яшчэ давала пра сябе ведаць, але ўжо другія суткі не тэмпературыў. А каб дзень не здаваўся годам, раз-пораз цягнуўся да камп'ютара і знаёміўся з навінамі. Больш за ўсё мяне хвалявалі падзеі, якія адбываліся ў паўднёва-усходнім рэгіёне Украіны.

...Цяжка паранены мэр Харкава.

...У Канстанцінаўцы сепаратысты захапілі ўпраўленне міліцыі і мэрыю.

...У Данецку баевікі заблакіравалі тэлецэнтр.

...Глава АБСЕ заклікае сепаратыстаў вызваліць ваенных назіральнікаў у Славянску.

...Служба бяспекі Украіны паведамляе аб 40 закладніках.

У нашых суседзяў ільецца кроў. Цывілізаваным людзям не трэба тлумачыць: гэта не столькі ўнутраны канфлікт Украіны, колькі — агрэсія, спланаваная пры яўнай зацікаўленасці з усходу. Агрэсія, якая, паводле меркавання многіх аналітыкаў, можа выбухнуць у трэцюю сусветную вайну...

Жудасна! Таму, глытаючы пілюлі, я з болем у сэрцы ўчытваўся ў кожны радок інтэрнэтаўскіх навін. І раптам стукнула: заўтра ж у Мінск прылятае Пуцін! Менавіта яго "зялёныя чалавечкі", быццам саранча, нахабна праніклі на Крымскі паўвостраў, сеючы варожасць і правакацыі, нацкоўваючы адну частку людзей на другую. Рэферэндум? Якое, на хрэн, волевыяўленне народа пад дуламі аўтаматаў!..

А ці ж не з блаславення Пуціна дыверсанты Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генеральнага штаба Узброеных сіл Расіі вось ужо каторы тыдзень задзейнічаны ў баявых аперацыях у паўднёва-ўсходнім рэгіёне Украіны? У следчых, якія ладзяць допыты злоўленых шпіёнаў, вочы на лоб лезуць ад пачутага...

Чым менш часу заставалася да прызямлення ў Нацыянальным аэрапорце Мінск галоўнага расійскага лайнера, тым больш мне не давала пакою думка: дык хто ж, хто з беларусаў адкрыта скажа "цару Пуціну", што на двары не сярэднявечча, а XXI стагоддзе, што нягожа лезці са сваім статутам у чужы манастыр? Украінцы самі разбяруцца са сваімі праблемамі, вы іх толькі не сутыкайце лбамі, не нацкоўвайце адзін на аднаго. У рэшце рэшт ёсць Хельсінкскае пагадненне, якое на падставе міжнароднага права выключае ўсялякі перагляд межаў паміж еўрапейскімі краінамі. Распад СССР, пра што так скуголіць "цар Пуцін", — з іншай оперы. Гэта не вынік знешняй агрэсіі, гэта — дзеянне натуральнага закона аб з'яўленні і знікненні тых жа імперый. Колькі іх было на Зямлі і колькі знікла!

Не-не ды і вымройвалася версія: на гэты раз Лукашэнка ўсё ж не сцерпіць, не прамаўчыць, урэжа Пуціну праўду-матку! А калі не ўрэжа, калі прамаўчыць, калі пабаіцца? Тады што, "цар Пуцін" будзе на белым кані скакаць па Мінску, а ў Славянску, Луганску, Данецку, Харкаве працягне ліцца кроў?..

Адзін варыянт, другі, трэці... Аднекуль вырвалася: а голас грамадства?

Так, у Беларусі пражываюць амаль дзевяць з паловай мільёнаў чалавек. Зарэгістраваны пятнаццаць палітычных партый, не адна тысяча грамадскіх аб'яднанняў, суполак. Толькі афіцыйныя прафсаюзы Козіка налічваюць больш за чатыры мільёны членаў. Рабочы клас, сялянства, інтэлігенцыя... Апазіцыя, дысідэнты... Здавалася б, у гэты трывожны не толькі для ўкраінцаў, але і для нас, іх суседзяў, час голас народа павінен набатам гучаць у кожным горадзе, у кожнай вёсцы. Гучаць на сходах і мітынгах, у тэле- і радыёэфіры, са старонак дзяржаўных і недзяржаўных газет, часопісаў... А ў варот расійскай амбасады — утварацца чэргі нераўнадушных грамадзян з петыцыямі да "цара Пуціна".

Але вось праблема — не чуваць чамусьці голасу беларускіх мас у падтрымку ўкраінскага народа. Выступіў адзін-другі раз А.Лукашэнка — і цішыня, як быццам усім астатнім і сказаць няма чаго.

Трывога, непакой на душы за суседзяў, як і за лёс нас, беларусаў, вымусілі мяне ў той жа панядзелак набраць нумар тэлефона Уладзіміра Някляева, чалавека, які вось ужо колькі гадоў прэтэндуе на пасаду прэзідэнта Беларусі.

— Пракопавіч, каму, як не ініцыятарам кампаніі "Гавары праўду!", выкласці праўду-матку госцю, які прыбывае заўтра з Масквы?

— Думалі над гэтым, але ж, ты ведаеш, калі заўтра выйсці на вуліцы і наладзіць "цёплы прыём" Пуціну, то няцяжка здагадацца, дзе можна апынуцца.

Што гэта — нежаданне брацца за сур'ёзную справу, вузкалобасць людзей з атачэння таго ж Уладзіміра Някляева ці нешта іншае? З многімі, хто верхаводзіць у грамадскай кампаніі "Гавары праўду!", я асабіста знаёмы і не магу сказаць, што іх інтэлектуальны ўзровень выклікае сумненні. Дык няўжо мазгавітыя хлопцы пры белых кашулях і гальштуках не ведаюць, што на практыцы ёсць дзясяткі, сотні магчымасцяў выказаць рашучы пратэст "цару Пуціну", не парушаючы законаў і без пагрозы апынуцца ў засценках на Акрэсціна?

Нельга закідаць заявамі, лістамі-пратэстамі (не адзінкавымі, а шматтысячнымі) тую ж расійскую амбасаду ў Мінску? Можна. Баішся наблізіцца да пасольскіх варот — можаш скарыстацца паслугамі пошты. Толькі дзе тыя актывісты кампаніі "Гавары праўду!", якія ўчапіліся б за арганізацыю такой акцыі? І не за дзень да з'яўлення ў Мінску "цара Пуціна", а загадзя, за два-тры тыдні да яго прыезду.

Нельга зладзіць навалу на расійскіх імперцаў (якія пакуль бушуюць ва Украіне, але заўтра могуць аказацца і ў Віцебску, Магілёве) са старонак незалежных газет, праз свабодныя сайты, тэле- і радыёканалы? Вядома ж, можна. Але за апошні месяц парог "Народнай Волі" не пераступіў ніводзін (!) актывіст кампаніі "Гавары праўду!". Не пераступіў і не прапанаваў надрукаваць яго заяву ці адкрыты ліст з нагоды ўкраінскіх падзей. А тыя іх выказванні, якія дзе-нідзе з'яўляліся, на мой погляд, хутчэй мелі чыста піяраўскі характар, чым ілюстравалі прынцыповую, змагарскую пазіцыю аўтараў.

Так, паводле сённяшніх драконаўскіх законаў нельга праводзіць пікеты, мітынгі ў месцах, не вызначаных для гэтага мясцовымі ўладамі. Дык праводзьце, шаноўныя, хоць там, дзе дазволена. Пры сучасных інфармацыйных тэхналогіях любая арыгінальная "карцінка" за лічаныя хвіліны даляціць у любы куток свету з любой "сабачай пляцоўкі". Але я заўважаю, у апошнія гады з'явілася нямала юных апазіцыянераў, якім лягчэй плюнуць на існуючы закон і адседзець 10—15 сутак на Акрэсціна, чым арганізаваць па-сапраўднаму крэатыўную акцыю ў межах закона.

У савецкія часы нямала пратэстных лістоў з Беларусі ляцела ў Крэмль. Іх аўтарамі зачастую былі вядомыя, аўтарытэтныя людзі краіны. Яны што, пераваяліся? Не. Але хто з апазіцыйных палітыкаў кантактуе з імі? Ці наладжаны сувязі ў актывістаў кампаніі "Гавары праўду!" з сотняй-другой знакамітых асоб краіны? Ці часта яны сустракаюцца, раяцца з аксакаламі, просяць паўдзельнічаць у той ці іншай акцыі? Ці прапаноўвалі яны каму-небудзь са знакамітых фігур публічна адгукнуцца на бяду суседзяў-украінцаў? А іх голас мог быць пачуты нават у тым жа Крамлі.

Дарэчы, а чаму б з заклікам падтрымаць украінскіх братоў не звярнуцца да працоўных калектываў? Пытанне застаецца без адказу як з боку незалежных прафсаюзаў (не кажучы пра козікаўскія), так і палітычных партый. А актывісты той жа грамадскай ініцыятывы "Гавары праўду!", мабыць, чакаюць, калі будзе адмашка з "Чырвонага дома", і тады ў адно вока "ўсенароднае абурэнне бандытызмам расійскіх імперцаў" захлісне вуліцы і плошчы.

Ды што някляеўская гвардыя! Невядома чаго чакае ўсё наша грамадства! Пры такой пазіцыі Беларусь можа падзяліць лёс Украіны. Правакатары, як адзначаў сам Лукашэнка, узнімаюць галовы. Бачыце, яны ўжо балбочуць, што быццам мы, беларусы, заціскаем рускіх. Пры патуранні такім адпетым шавіністам можна дачакацца і пуцінскіх "зялёных чалавечкаў". Расійскія ваенныя самалёты ўжо прызямліліся на беларускай зямлі. І гэты факт не можа не выклікаць трывогу. Калі самалёты з чырвонымі зоркамі, крый Божа, паляцяць бамбіць Кіеў — зваротны ўдар будзе па Беларусі. Мы гэтага чакаем?!

Дарэмна я патэлефанаваў Уладзіміру Някляеву? Не, не дарэмна. Яшчэ раз пераканаўся ў тым, што не ён "камандуе парадам" у кампаніі "Гавары праўду!". Камандуюць тыя, хто здольны на адно — растрызвоніць на ўвесь белы свет, што старшыня глухога палескага сельсавета Пупкін не засыпаў лужу на вясковай вуліцы. Але яны не здольныя ўзяцца за сапраўды сур'ёзную справу — падняць хвалю народнага пратэсту ў сувязі з дыверсіямі расійцаў на ўкраінскай зямлі, працягнуць руку дапамогі суседзям, якія трапілі ў вялікую-вялікую бяду. Памянташыць языком — калі ласка, хоць круглыя суткі, пайсці на рашучы крок — каленкі дрыжаць. Чаму дрыжаць? Перад кім дрыжаць? Які кошт гэтай дрыготкі? Пытанні, Уладзімір Пракопавіч, на якія Вам рана ці позна давядзецца адказваць. І сабе самому, і электарату, без волі якога Вы ніколі не сядзеце ў крэсла прэзідэнта.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ.**

***P.S.*** *У апошні момант вырашыў пагартаць кнігу У.Някляева "Знакі прыпынку". Наткнуўся на такі яго роздум: "Інтэлігенцыя — не тая сіла, якая здольная справіцца з дыктатурай, тыраніяй; а тым больш не па сіле гэта інтэлігенцыі беларускай, пра якую народ нават не здагадваецца, што яна ў яго ёсць".*

*Сцвярджэнне поўнай бездапаможнасці! У такім выпадку, Уладзімір Пракопавіч, мне зразумела, чаму Вы і вашы паплечнікі па ініцыятыве "Гавары праўду!" за некалькі гадоў навучыліся толькі бурбалкі пускаць...*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
3 МАЯ 2014 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Облом

Главная интрига саммита президентов таможенной тройки, который прошел в Минске 29 апреля, разрешилась со знаком минус для белорусской стороны: Россия не согласилась оставлять экспортные пошлины от нефтепродуктов в белорусском бюджете. С января 2015 года они, как и сегодня, будут перечисляться белорусскими экспортерами в бюджет Российской Федерации. А это, напомним, до 4 миллиардов долларов ежегодно. Несмотря на обещания Путина оставить пошлины белорусам в час "икс", несмотря на клятвенные заверения Лукашенко не подписывать в противном случае договор о создании Евразийского экономического союза, он, скорее всего, будет подписан, как и планировалось, 29 мая в Астане на российских условиях, которые можно сформулировать так: сохранить все, как есть. Точнее, изъятия на нефтяном рынке сохранятся аж до 2025 года. Здесь в самый раз сказать: "Обещанного десятки лет ждут..."

Казахстан также выдвигал ряд претензий к Таможенному союзу. Считай, к России. Сохраняются препоны в продвижении казахстанских товаров на российский рынок, в результате у Астаны с Россией отрицательный торговый баланс. Назарбаев регулярно ставит перед Москвой вопрос о самостоятельном доступе своего газа через инфраструктуру "Газпрома" в Европу, об ограничениях транзита нефтепродуктов и другие.

Что-то еще, возможно, доработается в рамках Евразийской экономической комиссии до 29 мая, но это, полагаю, будут вопросы относительно второстепенного характера. К примеру, снятие претензий России по размерам государственной поддержки белорусского сельского хозяйства, предоставление реально равных возможностей участия белорусских производителей в российских тендерах по закупке сельскохозяйственной техники, грузовиков, тракторов и т.п. Скорее всего условия подписания договора о создании ЕврАзЭС со стороны Лукашенко будут обставлены скорейшим выделением Россией оставшейся части согласованного 2-миллиардного кредита и, возможно, выделением нового 3—5-миллиардного кредита на модернизацию экономики. Таким образом, язвительные угрозы Лукашенко в адрес Путина, высказанные в послании белорусскому народу и парламенту 22 апреля, о том, что, если по российскому сценарию общий рынок нефти и газа без всяких изъятий начнет функционировать не ранее 2025 года, тогда договор о ЕврАзЭС, мол, и подпишем, повисли в воздухе.

Можно выделить два главных фактора, благодаря которым Путин так быстро обломал строптивых с виду Лукашенко и Назарбаева. Первый: и Казахстан, и особенно Беларусь экономически полностью зависят от России. Стоит экономику Беларуси на миг снять с российской нефтегазовой иглы, отлучить от ее энергетических преференций и спасительных кредитов, она в тот же миг и загнется. Для Назарбаева, несмотря на его большую открытость Западу и наличие природных ресурсов в стране, также немного места для экономического маневра. В общем, как говорят, куда им обоим деться с российской подводной лодки? Второй фактор: под влиянием российско-украинского кризиса и уже последовавших экономических санкций Запада Россия на сегодня не в состоянии профинансировать создание ЕврАзЭС на компромиссных условиях, уступив требованиям партнеров, как бы справедливы они ни были. Кроме того, на фоне последних событий на юго-востоке Украины, где в метре от украинской границы греет моторы российская тяжелая военная техника, раздражать Путина его коллегам, мягко говоря, себе дороже. Путин уже всем показал: если кто-то не хочет по-хорошему, он может и по-плохому.

Минску дали понять, что с аннексией Крыма Москва живет в другом измерении и будет продавливать свой проект Евразийского экономического союза в установленные сроки, чего бы это ей ни стоило. А стоит это ей уже немало. Министерство финансов США объявило о вводе новых санкций против еще семи российских чиновников и 17 российских компаний. В новый список попали глава "Роснефти" Сечин, глава Госкорпорации "Ростехнологии" Чемезов, замглавы Администрации Кремля Володин, вице-премьер Козак. К банкам "Россия" и "Собинбанк" добавились "Инвесткапиталбанк" и "СМП-банк". На очереди "Сбербанк", "Банк ВТБ", "Внешэкономбанк", "Газпромбанк". Все физические фигуранты списка не могут въезжать на территорию США, а активы, которыми они располагают в США, замораживаются. Некоторые российские чиновники бравируют, заявляя, что им от этого ни холодно, ни жарко. Но это напускная бравада. У многих из них, как, к примеру, у главы ОАО "Российские железные дороги" Якунина, детишки живут или учатся за границей. Там же, в основном на Западе, имеется и имущество. А перевод денег станет весьма затруднителен. Практически любой банк связан по бизнесу с банками-корреспондентами в США либо с банками, которые проводят операции в долларах. Поэтому Visa и MasterCard перестали проводить платежи в России. Хотя великодержавная шовинистическая волна, поднятая Путиным, и увеличила его рейтинг, вскоре наступит и отрезвление. Многим россиянам придется отменить свои поездки за границу, некоторые из них обнаружат, что их кредитные карты заблокированы.

Российские корпорации не могут пролонгировать свои кредиты на Западе, некоторые были вынуждены отменить первые публичные размещения своих ценных бумаг (IPO). Из-за российско-украинского кризиса правительству России пришлось отменить почти все аукционы своих облигаций. Отток своего и иностранного капиталов, который уже начался, эксперты оценивают в течение года не менее чем в 100 миллиардов долларов. Прекращают сотрудничество с российскими банками и фирмами, в отношении которых власти США объявили санкции, американские IT-компании Microsoft, Oracle, Symantec и Hewlett-Packard (HP). Они отключают от российских партнеров свои компьютерные продукты. Министерство торговли США заблокировало поставку в Россию современных технологий и высокотехнологичных товаров. Международное рейтинговое агентство Standard & Poor's снизило долгосрочные кредитные рейтинги ведущим российским компаниям и банкам со "стабильного" до "негативного". Это воспрепятствует притоку иностранного капитала на российский финансовый рынок и ускорит отток капитала, размещенного на нем.

Страны ЕС для ограничения энергозависимости от России создают Европейский энергетический союз, чтобы координировать свои действия и закупать российский газ централизованно. Тем самым они собираются ограничить ценовую политику "Газпрома", которая приобрела политический характер. В расширенном санкционном списке Евросоюза нет пока компаний и бизнесменов, а только лица, причастные к аннексии Крыма, и сепаратисты юго-востока Украины. Однако европейцы считают, что из-за своих действий в отношении Украины, больше напоминающих стереотипы мышления XIX века, Россия стала страной-изгоем. Она упустила возможность создать функционирующую современную экономику и стала непригодной из-за риска непредсказуемости тамошнего руководства для иностранных инвестиций, позволяющих развивать передовые технологии.

В итоге стагнирующая экономика России вошла в состояние рецессии — снижение темпов ее роста происходит два квартала подряд. Нефтегазовая кубышка России быстро истощается. Путин сейчас считает каждый миллиард долларов. Нефтегазовые требования Беларуси и Казахстана, по подсчетам замминистра финансов РФ Шаталова, обойдутся российскому бюджету в 33 миллиарда долларов. Россия не может сегодня позволить себе такие траты. Военные авантюры Путина обходятся в копеечку. Еще в начале апреля эксперты прогнозировали, что за текущий год российская экономика все-таки вырастет на 1,3%, теперь прогнозный показатель снижен до символических 0,2%. Россия и Украина — самые важные торговые партнеры для Беларуси. В случае замедления роста российской экономики и падения, что предсказуемо, украинской, ожидать чего-то от белорусской не приходится. Как не приходится ожидать прежней российской оплаты союзнической верности. Это показал минский саммит и расставит все точки над "і" предстоящий саммит в Астане.

SOS!

## Нас менш за 9,5 мільёна

Афіцыйны сайт Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі паведаміў у сваім прэс-рэлізе, што колькасць насельніцтва краіны на 1 красавіка 2014 года склала 9 мільёнаў 467 тыс. чалавек. На жаль, ужо шмат гадоў колькасць насельніцтва Беларусі не можа перавысіць адзнаку ў 10 мільёнаў чалавек.

Сумна і тое, што ў студзені—сакавіку 2014 года ў Беларусі нарадзілася 27.690 дзяцей, а памерла 31 тысяча 311 чалавек. У цэлым па краіне ў студзені—сакавіку 2014 года колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 13,1%!

Сітуацыя з нараджальнасцю ўвогуле трывожная. За першыя тры месяцы 2014 года ў краіне з'явілася на свет 27,7 тыс. дзяцей, гэта на 400 чалавек менш, чым у аналагічным перыядзе 2013 года.



АБІТУРЫЕНТ-2014

## Першыя тэсты выпускнікі напішуць у выхадныя дні

*Міністэрства адукацыі апублікавала графік правядзення цэнтралізаванага тэсціравання, а таксама зацвердзіла тэрміны рэгістрацыі абітурыентаў для ўдзелу ў ЦТ у рэзервовы дзень.*

Запісацца на ЦТ можна з 2 мая па 1 чэрвеня ўключна.

Цэнтралізаванае тэсціраванне па вучэбных прадметах у 2014 годзе правядуць у наступным парадку:

беларуская мова — 14 чэрвеня (субота);

руская мова — 15 чэрвеня (нядзеля);

грамадазнаўства — 17 чэрвеня (аўторак);

біялогія — 19 чэрвеня (чацвер);

матэматыка — 20 чэрвеня (пятніца);

гісторыя Беларусі — 22 чэрвеня (нядзеля);

хімія — 23 чэрвеня (панядзелак);

фізіка — 24 чэрвеня (аўторак);

сусветная гісторыя найноўшага часу — 25 чэрвеня (серада);

замежная мова (англійская, нямецкая, французская, іспанская) — 27 чэрвеня (пятніца);

геаграфія — 28 чэрвеня (субота).

Час пачатку правядзення цэнтралізаванага тэсціравання — 11.00.

Пастановай Мінадукацыі таксама ўсталяваны тэрміны рэгістрацыі абітурыентаў для ўдзелу ў ЦТ у рэзервовы дзень — з 27 чэрвеня па 1 ліпеня 2014 года. Сам рэзервовы дзень прызначаны на 5 ліпеня, суботу.

ДАРЭЧЫ

## Дастаткова 5 балаў

Падчас дадатковага набору абітурыентаў, які з 2014 года будзе праводзіцца ў ВНУ пры наяўнасці вакантных месцаў пасля першага залічэння, ніжнія парогавыя значэнні цэнтралізаванага тэсціравання, неабходныя для падачы дакументаў у ВНУ, будуць зніжаны на 5 балаў. Аб гэтым паведаміў міністр адукацыі **Сяргей Маскевіч.** Ён падкрэсліў, што рашэнне аб зніжэнні ніжніх парогавых значэнняў ЦТ пры правядзенні дадатковага набору ў ВНУ *"поўнасцю адпавядае новым правілам прыёму ў ВНУ".*

Нагадаем, для падачы дакументаў у прыёмную камісію неабходна набраць не менш як 10 балаў па рускай або беларускай мове, 15 — па матэматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі, 20 — па гісторыі Беларусі, сусветнай гісторыі найноўшага часу, грамадазнаўстве, геаграфіі і замежных мовах.

ЗА РУЛЁМ

## Затрыманы 363 п'яныя вадзіцелі

За мінулыя святочныя і выхадныя дні (29 красавіка — 1 мая) на дарогах краіны адбылося 541 ДТЗ з матэрыяльным уронам. Учынена 30 ДТЗ, у якіх 5 чалавек загінулі і 33 атрымалі раненні.

Як паведамляе ўпраўленне ДАІ МУС Беларусі, выяўлена больш як 19.000 парушэнняў ПДР. За кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане алкагольнага ап'янення затрыманы 363 вадзіцелі. За перавышэнне хуткасных рэжымаў руху аштрафаваны 5472 вадзіцелі.

Сярод загінуўшых у ДТЗ пешаход, два вадзіцелі і два пасажыры.

## Паляванне на «бяспраўнікаў»

Па віне вадзіцеляў, якія не маюць права кіравання, за мінулыя выхадныя адбыліся тры дарожныя здарэнні, якія пацягнулі за сабой чалавечыя ахвяры.

За тры месяцы гэтага года "бяспраўнікі" ўчынілі 57 уліковых ДТЗ, у якіх 11 чалавек загінулі і 63 былі паранены. У 22 выпадках вадзіцелі ў момант учынення ДТЗ знаходзіліся ў стане ап'янення.

Улічваючы актуальнасць праблемы, якая ствараецца вадзіцелямі без правоў, Дзяржаўтаінспекцыя ўзмоцніць кантроль за гэтай катэгорыяй парушальнікаў, для чаго будуць актыўна выкарыстоўвацца прыборы "Аўтаўраган".

ЧУЛІ?

## Легендарны Ягр згуляе ў Мінску

42-гадовы чэшскі форвард **Ярамір Ягр** згуляе за зборную сваёй краіны на чэмпіянаце свету ў Мінску. У складзе нацыянальнай зборнай Ярамір Ягр выступае з 1990 года (тады яшчэ адзінай Чэхаславакіі), а ў апошні раз на чэмпіянаце свету гуляў у 2011 годзе ў Славакіі, калі Чэхія стала бронзавым прызёрам, перамогшы ў матчы за трэцяе месца зборную Расіі — 7:4. У тым матчы Ягр адзначыўся выніковай перадачай. У складзе нацыянальнай зборнай Ягр таксама выйграў золата Алімпіяды-1998 у Нагана, бронзу Турына-2006, а таксама золата чэмпіянатаў свету-2005 і 2010 і бронзу чэмпіянату свету-1990.

КРОПКІ НАД «і»

## Прафесар Ключароў быў рэктарам медінстытута...

Шкада, але ў юбілейнае інтэрв'ю Зінаіды Бандарэнка, якое было надрукавана ў мінулым нумары "Народнай Волі", выпадкова ўкралася недакладнасць. Прафесар Аляксандр Ключароў быў рэктарам не педінстытута, а **медінстытута.** Прыносім прабачэнні чытачам.

СІТУАЦЫЯ

# Пажар

Здарылася ўсё на пачатку верасня мінулага года, калі пенсіянеры Грысімавы былі на лецішчы. У доме №29, што на вуліцы Карастаянавай, вёўся капітальны рамонт. Падчас зварачных работ ад іскры загарэўся балкон. Будаўнікі пажар не заўважылі, а загадчыца тутэйшай крамы патэлефанавала ў службу 101, калі з балкона ўжо валіў густы дым і шугала полымя.

Гаспадыня кватэры **Сафія Сцяпанаўна** ўзгадвае:

*— Згарэў не толькі балкон, але і акно, і частка падлогі... На балконе ляжаў згорнуты дыван, бо ў доме ж капітальны рамонт, дык ён кавалкамі прагарэў, гардзіна новая ўся спяклася... Балкон быў зашклёны, натуральна, усе рамы згарэлі. Калі мой муж убачыў гэта, яму зрабілася кепска. Давялося "хуткую" выклікаць..."*

**Мікалай Цімафеевіч Грысімаў** кажа:

*— Пажар — гэта бяда. А вось тое, што пачалося потым, я магу назваць толькі здзекам з людзей. Нам сказалі, што новыя рамы прывязуць толькі ў лістападзе, бо ім трэба падсохнуць. І што вы думаеце? Прывезлі рамы, але якія — збітыя як папала са старых трухлявых дошак. Мы, канешне, ставіць іх адмовіліся. А 9 лістапада прыехала майстар з нашага ЖЭС №27* ***Наталля Карольчык*** *і заявіла: "Раз вы адмовіліся, то новыя рамы — толькі праз мой труп". Мы ўсё ж дабіліся новых рам, і пасля Новага года, калі Карольчык была на сесіі, нам іх прывезлі. Але аказалася, што рамы не падыходзяць па памеры. Паміж плітамі і рамамі шчыліны па 15 сантыметраў...*

Аглядаю маленькую кватэрку. Усё вельмі сціпленька. На балконе можа памясціцца толькі адзін чалавек. Ды гэта не галоўнае. Мікалай Цімафеевіч звяртае ўвагу на кашторыс:

*— Мільярд 600 мільёнаў рублёў выдаткоўвалася на рамонт аднапад'езднага дома. Такая сума! А нам адмаўляюць у кампенсацыі за дыван, гардзіну... Сказалі, што мы не прадставілі тыя рэчы, якія згарэлі. Дык вось жа яны!*

*Уяўляеце, калі я чарговы раз пайшоў у ЖЭС, там на мяне накрычалі, сказалі, што я стары дурань, раз пайшоў па інстанцыях дабівацца праўды. Я не вытрымаў. Выйшаў адтуль і страціў прытомнасць. Паваліўся і праляжаў каля ЖЭСа на вуліцы на марозе з гадзіну. Ну а ўвечары выклікалі "хуткую" — і ў шпіталь. У мяне двухбаковае запаленне лёгкіх з-за гэтага атрымалася.*

Тэлефаную ў ЖРЭА. У прыёмнай сказалі, што добра ведаюць Мікалая Ціханавіча Грысімава. Высветлілася, што ён не адзіны з дома, хто судзіцца з камунальшчыкамі.

Нарэшце ўдалося звязацца з Наталляй Карольчык. Яна сказала:

— Сапраўды, пажар адбыўся па віне арганізацыі, якая рабіла рамонт. Грысімаў павінен прадставіць дакументы, якія пацвердзілі б кошт згарэўшых рэчаў.

***— А што наконт рам, якія не таго памеру? Хто будзе перарабляць?***

*— Ён мусіць быць удзячны нам за тое, што мы не прымусілі яго дэмантаваць. Дазволу ў яго няма на ўсталяванне рам...*

Суд па іску пенсіянера Грысімава да камунальшчыкаў павінен адбыцца ў маі. Натуральна, чэкаў на дыван і гардзіну не захавалася. Ды і хто мог падумаць, што трэба захоўваць нейкія чэкі? Так што шанцаў у пенсіянераў атрымаць кампенсацыю няшмат. Сафія Сцяпанаўна толькі і сказала: "*Ну, вы падумайце, пажар узнік па віне тых, хто займаўся капітальным рамонтам дома, а нас у нечым вінавацяць... Тыя ж абпаленыя дарожкі, дыван ляжаць на балконе...*"

Мікалаю Цімафеевічу не так даўно зрабілі аперацыю на сэрцы. А тут такія перажыванні... Мала таго, што ледзь не спалілі ўсю кватэру, дык, бачыце, людзям трэба яшчэ парогі абіваць, каб атрымаць нейкую дробязную кампенсацыю.

**Любоў ЛУНЁВА.**
*Мінск.*

РЕГИСТРАТУРА

## Беларусь 9-я по пересадке сердца

Беларусь стала 11-й страной мира по количеству трансплантаций от умерших доноров. На миллион жителей в нашей стране приходится 18 пересадок в год. Такие данные опубликованы в Международном реестре донорства и трансплантации органов.

Больше всего у нас проводят пересадок почки от умерших доноров — 32,7 на миллион жителей. По количеству такого вида трансплантаций наша страна занимает 10-е место в мире.

Беларусь также оказалась на 9-м месте по пересадке сердца. Показатель — 4,2 пересадки на миллион человек.

КАЛЬКУЛЯТОР

# За рождение ребенка заплатят более 12 миллионов

*С 1 мая в Беларуси вырастет размер детских пособий, которые высчитываются исходя из бюджета прожиточного минимума, который также повышается с 1 мая на 7,5% и будет составлять 1 миллион 212 тысяч 470 рублей.*

*Зависящие от БПМ пособия также возрастут на 7,5%. Вот они:*

— Единовременное пособие при рождении первого ребенка — 12.124.700 рублей.

— Единовременное пособие при рождении второго и последующих детей — 16.974.600 рублей.

— Единовременное пособие женщинам, вставшим на учет в государственных организациях здравоохранения до 12-недельного срока беременности — 1.212.500 рублей.

— Ежемесячное пособие на ребенка-инвалида старше 3 лет (надбавка) — 848.700 рублей.

— Ежемесячное пособие по уходу за ребенком-инвалидом в возрасте до 18 лет — 1.212.500 рублей.

— Ежемесячное пособие по уходу за ребенком, инфицированным ВИЧ, в возрасте до 18 лет — 848.700 рублей.

*А вот привычные ежемесячные пособия мамам, воспитывающим детей до 3 лет, останутся прежними — такими же, какими они были в феврале—апреле 2014 года:*

— Ежемесячное пособие по уходу за ребенком до 3 лет (первый ребенок) — 1.946.300 рублей.

— Ежемесячное пособие по уходу за ребенком до 3 лет (второй и последующий дети) — 2.224.300 рублей.

— Ежемесячное пособие по уходу за ребенком-инвалидом до 3 лет — 2.502.400 рублей.

*Все дело в том, что эти виды пособий исчисляются исходя не из БПМ, а средней заработной платы. Ее размер по состоянию на 1 мая составляет 5 миллионов 497 тысяч 181 рубль.*

*Примечательно, что размер средней заработной платы в Беларуси не только не увеличился за 1-й квартал 2014 года, что позволило бы увеличить и суммы детских пособий, но и уменьшился на 63 тысячи 655 рублей.*



КАДРЫ

# Аляксандр Жук узначаліў Педуніверсітэт імя Максіма Танка

Учора Аляксандр Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні, замяніўшы ў трох міністэрствах першых замаў. Пасады першага намесніка міністра культуры пазбавіўся **Уладзімір Карачэўскі**, якога зменіць на гэтай пасадзе **Ірына Дрыга**. Яна працавала начальнікам упраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта. З Міністэрства адукацыі сыходзіць **Аляксандр Жук**, які ўзгоднены на пасаду рэктара Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, паведамляе прэс-служба прэзідэнта. Першым намеснікам у міністра Мінпрыроды стане **Ія Малкіна**.



Прэзідэнт таксама даў згоду на прызначэнне некалькіх прадстаўнікоў абласной і раённай вертыкалі, а таксама намеснікаў міністраў аховы здароўя і міністра інфармацыі. Так, у міністра аховы здароўя з'явіўся пяты намеснік. Ім стаў **Вячаслаў Шыла,** які быў галоўным урачом мінскай Бальніцы хуткай дапамогі, а да гэтага працаваў у сталічным Камітэце аховы здароўя.

Лукашэнка ўхваліў змену кіраўніцтва ААТ "Віцязь". Гендырэктарам віцебскага вытворцы тэлевізійнай тэхнікі стаў выхадзец з канкурэнтнага аб'яднання — "Гарызонта" **Сяргей Гунько**.

Народная Воля http://www.nv-online.info
3 МАЯ 2014 г.

АСОБА

## Міхась КУКАБАКА:

# «Кожны чалавек у сілу сваіх магчымасцяў можа пратэставаць супраць бандыцкіх паводзін улады»

*Беларускі дысідэнт-антысаветчык **Міхась КУКАБАКА** жыве ў Маскве, а ў Беларусь прыехаў упершыню за 15 гадоў. Гэта чалавек, які правёў у савецкіх турмах каля 20 гадоў, першым у Саюзе выказаўся супраць уводу войскаў у Чэхаславакію і быў апошнім рэабілітаваным палітвязнем.*

Беларускія праваабаронцы пазнаёміліся з Міхасём Ігнатавічам у лютым 2013 года. Тады ж з'явілася ідэя запрасіць яго на радзіму. Гэтага даўно хацеў і Алесь Бяляцкі, але не паспеў рэалізаваць сваю задумку.



На думку **Валянціна Стэфановіча**, у гісторыі Міхася Кукабакі можна знайсці шмат паралеляў з беларускай сучаснасцю:

*"Спадар Міхась пераследаваўся за заклікі байкатаваць выбары. Яму неаднойчы прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні. Прычым прапаноўвалі напісаць проста "прашу мяне вызваліць". Фактычна тое самае, што мы нядаўна чулі з вуснаў кіраўніка краіны, калі ён казаў пра магчымасць вызвалення палітычных вязняў, у прыватнасці Міколы Статкевіча".*

Падчас мерапрыемства праваабаронцы перадалі прывітанне былому палітычнаму вязню ад **Алеся Бяляцкага**, які, дарэчы, даслаў такую паштоўку: *"Дзядзьку Міхасю перадавайце мае цёплыя прывітанні і шанаванні бясконцыя. Ён сапраўдны асілак духу і ўласнай годнасці".*

На сустрэчы госць адказваў на пытанні прысутных, сам успамінаў нейкія цікавыя гісторыі са свайго няпростага жыцця...

**— Міхась Ігнатавіч, як вы, просты чалавек, у той час прыйшлі да разумення савецкай рэчаіснасці і сталі "антысаветчыкам"?**

— Шчыра скажу, гэты шлях быў доўгі і складаны. Большасць майго пакалення замбіравалася прапагандай ледзь не з пялёнак, мы ўсе спачатку верылі амаль кожнаму слову партыйных кіраўнікоў. Калі і выяўляліся нейкія хібы, то яны спісваліся на "асобныя недахопы". Гэта была ўніверсальная формула, як тады казалі, самай справядлівай і перадавой сістэмы. Але ў маёй свядомасці важную ролю адыграла смерць Сталіна і прыход да ўлады Хрушчова, які, як пісаў Салжаніцын, "приподнял край окровавленной рогожи". Стала вядома пра сталінскія рэпрэсіі, краіна крыху адкрылася. Людзі пачалі атрымліваць больш інфармацыі, з'явіліся нарысы, якія больш-менш праўдзіва апісвалі, якое жыццё "там". Натуральна, многія пачалі задумвацца і аналізаваць. Ды і за анекдоты ўжо не саджалі. Я таксама цікавіўся тым, што робіцца ў свеце, а пасля стаў задавацца пытаннем: чаму ў самай справядлівай краіне ў свеце людзі не могуць свабодна паехаць за мяжу? Мая свядомасць бурліла, шукала адказы на многія пытанні і не знаходзіла іх.

**— Адкрыта вы пачалі выступаць пасля падзей у Чэхаславакіі, калі туды ўвайшлі савецкія танкі?**

— Гэта была для мяне апошняя кропля. Затым да ўлады прыйшоў Брэжнеў, інфармацыі стала менш. Аднавілі крымінальны артыкул "Паклёп на савецкую рэальнасць". Пачаліся рэпрэсіі супраць пісьменнікаў, якія пісалі праўду, яны вымушаны былі друкавацца за мяжой. Многіх судзілі... Я не быў ні пісьменнікам, ні журналістам, але пачаў пісаць скаргі і запыты. І, калі ўвялі войскі ў Чэхаславакію, зразумеў, што не павінен маўчаць. Кожны чалавек у сілу сваіх сціплых магчымасцяў можа пратэставаць супраць бандыцкіх паводзін улады. Пасля таго як мяне выклікалі ў ваенкамат, я прама ў вочы сказаў ваенкому: "Паспрабуеце мяне накіраваць служыць у ЧССР, і я павярну аўтамат супраць вас". Быў вялікі скандал, я стаў "непажаданай персонай". Гэта адбівалася на рабоце, заробку... Тым часам яшчэ і ў Генеральнае консульства Чэхаславакіі я напісаў ліст-пратэст для заходняга друку, ігнараваў выбары і суботнікі. Праз нейкі час пайшлі пагрозы, падключыўся КДБ, у партыйныя структуры пачалі выклікаць маіх таварышаў. Вымушаны быў звольніцца з работы. Так пачыналася мая "антысавецкая" дзейнасць. Я быў просты рабочы, філасофіяй не займаўся. Аднойчы пракурор запытаўся ў мяне: "Чаму вы, Кукабака, так настойліва выступаеце супраць савецкай улады?" Адказваю: "Савецкая ўлада — ад слова "советоваться". А вось я прыйшоў да высновы, што з простымі людзьмі ніхто не раіцца. Так што за сапраўдную "савецкую ўладу" людзям яшчэ трэба змагацца". У той жа момант на мяне накінулі кайданкі.

**— Наколькі вядома, вы на працягу апошняга часу дабіваецеся рассакрэчвання матэрыялаў, як вас КДБ зрабіў вар'ятам і накіраваў быццам бы на лячэнне ў псіхбальніцу...**

— Так, я хачу ведаць, як савецкая медыцына рабіла з мяне ненармальнага, але інфармацыя пакуль трымаецца ў тайне. Хоць яшчэ ў 1991 годзе мяне рэабілітавалі па ўсіх абвінавачваннях. Зараз кажуць так: маўляў, грыф сакрэтнасці на гэтыя матэрыялы зняты, але справу паглядзець нельга. Я з гэтай нагоды нават напісаў артыкул "Какие тайны хранит Институт Сербского?".

**— У вас засталіся сябры ў Беларусі, з якімі вы хацелі б сустрэцца?**

— Разумееце, тады сябраваць са мной было небяспечна. Дарэчы, хоць я і выступаў супраць савецкай улады, але ніколі не дзяліў людзей на чорных і белых. У Саюзе было каля 20 мільёнаў камуністаў, нельга ж было казаць, што ўсе яны мярзотнікі. І ў маёй турэмна-лагернай біяграфіі сустракаліся прыстойныя людзі, пра якіх да гэтага часу ўспамінаю з удзячнасцю. Напрыклад, дырэктар камбіната ў Бабруйску пакінуў мяне жыць у інтэрнаце, хоць КДБ рабіў усё, каб мяне адтуль выгналі. Гэты дырэктар таксама быў камуністам, я яму нават распавёў, за што мяне пераследуюць. Ён выслухаў і кажа: "У цябе ж бацькоў няма, давай табе са спецыяльнага фонду матэрыяльную дапамогу вызначу". А я ж з гонарам быў, адказваю: "Вы хочаце, каб я ад гэтай дзяржавы падачку браў?! З голаду буду паміраць, а не вазьму". Той толькі рукой махнуў: "Відаць, Кукабака, цябе не дарэмна ў псіхбальніцу накіроўвалі". Быў і іншы добры чалавек — доктар Мельнікаў з Магілёўскай "псіхушкі". Калі мяне накіравалі ў бальніцу, доктар сказаў: "Ты патрапіў да нас, а значыць, цябе трэба лячыць. Лекі выпішам, але ў рот табе заглядваць не збіраемся". Даў зразумець, што тыя лекі прымаць неабавязкова, ніхто кантраляваць не будзе. Гэты чалавек ставіўся да мяне максімальна далікатна. Так што свет быў не без добрых людзей...

**— Міхась Ігнатавіч, наколькі складана вам даводзілася змагацца з магутнай савецкай сістэмай?**

— Ведаеце, я зразумеў, што нават у самыя цяжкія жыццёвыя моманты не варта губляць аптымізм. Калі чалавек адчувае, што праўда на ягоным баку, варта ісці да канца. Калі сядзеў ва Уладзімірскім цэнтрале, мяне закінулі ў ледзяную камеру. З раніцы да вечара гімнастыку рабіў, каб сагрэцца. І вось аднойчы распрануўся да пояса, нейкія фізічныя практыкаванні раблю, і тут заходзіць "афіцыйная дэлегацыя" — адміністрацыя турмы, начальніца санчасці, якая вызначалася сваім жорсткім характарам. Апошняя паглядзела на абстаноўку ў камеры, на мяне і кажа: "Скаргі ёсць?" — "Няма". — "Пажаданні?" — "Таксама ніякіх". — "Самаадчуванне?" — "Цудоўнае". Паглядзела на мяне, памаўчала, а на развітанне сказала: "Ты, Кукабака, выглядаеш, як сапраўдны вязень". А праз некалькі гадзін мяне перавялі ў цёплую камеру. Так што вельмі правільны турэмны прынцып: "Не вер, не бойся, не прасі". Ён, дарэчы, актуальны і сёння...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НА ВЗЛЕТ!

# *От китайского инвестора не отказались?*

*В ближайшее время должна быть определена окончательная стоимость строительства второй взлетно-посадочной полосы в Национальном аэропорту Минск.*

*"Я думаю, в ближайшее время будет принято решение о строительстве полосы и оговорена ее конкретная стоимость. Говорить сейчас, за какую стоимость мы будем строить, преждевременно, но в любом случае эта величина не должна превышать цифры, которые определила госэкспертиза после предоставления проектно-сметной документации",* — сказал директор департамента по авиации Министерства транспорта и коммуникаций **Владимир Костин**. Сейчас рассматривается вопрос о реализации проекта за сумму в пределах 300 млн долларов. *"С учетом того, что нужно еще развивать аэровокзал аэропорта, нам хотелось бы этого, и мы будем изыскивать такие возможности",* — отметил Владимир Костин.

По его информации, с китайской компанией "Точмаш" отношения не расторгнуты и продолжаются переговоры касательно создания второй ВПП. Как сообщалось, китайская сторона первоначально предлагала выполнить проект за 358 млн долларов, однако позднее назвала еще большую сумму. Белорусские специалисты полагают, что это не совсем оправдано. На совещании в середине апреля Александр Лукашенко предложил рассмотреть возможность строительства второй взлетно-посадочной полосы своими силами.

По оценке российской компании "Ленаэропроект", действующая взлетно-посадочная полоса в Национальном аэропорту Минск может обеспечивать безопасный прием и вылет воздушных судов вплоть до 2018 года. *"В том, что полоса будет построена к концу 2017 года, мы не сомневаемся",* — заверил Владимир Костин. Он пояснил, что с реализацией проекта можно уложиться за два года, поэтому к строительству необходимо приступить в 2015 году. Он добавил, что в национальном аэропорту будет построена полоса, которая способна принимать все ныне существующие самолеты, включая Airbus A380 — самый тяжелый в мире пассажирский самолет.

ДА ВЕДАМА

# *У Польшчу па новых правілах!*

*З 1 мая дзейнічаюць новыя правілы для замежнікаў, якія вучацца або працуюць у Польшчы.*

Змены палегчаць пражыванне грамадзян замежных дзяржаў на тэрыторыі Польшчы, перадае "Радыё Рацыя". Як абяцае прэс-сакратар Упраўлення па справах замежнікаў **Эва Пяхота**, будзе і менш бюракратыі.

*"З 2 да 3 гадоў падаўжаецца максімальны тэрмін, на які замежнікі могуць атрымаць дазвол на часовае пражыванне. Асобы, якія прыязджаюць у Польшчу ў сувязі з працай, таксама адчуюць палёгку. Для гэтага ім трэба атрымаць адзін дазвол на працу і знаходжанне ў Польшчы. Да гэтага былі патрэбны дзве працэдуры",* — паведаміла Пяхота.

Змены закрануць і замежных студэнтаў. Першы дазвол на часовае знаходжанне ім пачнуць даваць на 15 месяцаў, другі дазвол студэнт атрымае на тры гады. Раней было толькі на год.

Таксама змены тычацца замежнікаў, якія ўжо скончылі навучанне ў польскіх універсітэтах і цяпер шукаюць працу — для гэтага польскія ўлады даюць ім дадатковы год часовага знаходжання.

ТЕНДЕНЦИИ

*"Народная Воля" уже сообщала, что социологами Независимого института социально-экономических и политических исследований (зарегистрирован в Вильнюсе) проведен очередной опрос общественного мнения (методом face-to-face interview опрошено 1502 респондента 18 лет и старше, предельная ошибка репрезентативности не превышает 0.03). Продолжаем знакомить читателей с его результатами, комментируя отдельные моменты.*

# Результатам выборов не доверяем, но голосуем

В ходе мартовских выборов депутатов местных Советов белорусский народ не подвел своего "батьку", за что и получил благодарность: *"Спасибо народу, что поддержали нас в эти выборы, пришло столько людей. Это, конечно, ситуация насторожила, да и просил я людей, чтобы они пришли. То, что люди пришли на выборы, — это мне сильный аргумент. Я его часто достаю из кармана и выкладываю на стол в больших переговорах. И все понимают: раз пришло почти 80% человек — значит, доверие власти есть. Значит, у меня сила какая-то есть в этих переговорах. Это очень большой аргумент".*

Если с точностью до десятых, то, по данным ЦИК, с учетом досрочного голосования явка 23 марта составила 77,4%. Такой уровень явки вполне укладывается в "белорусский избирательный стандарт", который был установлен в ходе конституционного референдума 1996 года.

Данные общенационального опроса отклонились от данных ЦИК на два десятка процентных пунктов *(табл.1).* Неожиданности не произошло. За три месяца до выборов на фоне апатии, охватившей белорусское общество, был зафиксирован рекордно низкий уровень ожидаемой явки — 44% (сторонники А.Лукашенко — 67,1%, противники — 27,2%). Это ровно на 20 пунктов ниже среднего значения за "нулевые" годы.

**Таблица 1. Динамика ответов на вопрос "Участвовали ли вы в голосовании на выборах депутатов местных Советов в марте 2014 г.?"*, %**

| Вариант ответа | 03'03 | 01'07 | 06'10 | 03'14 | Отношение к А.Лукашенко | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Доверяют | Не доверяют |
| Да | 65.8 | 61.8 | 64.6 | 57.0 | 73.0 | 39.4 |
| Нет | 33.1 | 37.7 | 35.3 | 43.0 | 27.0 | 60.6 |

* Дата в формулировках вопросов соответствовала дате выборов.

Итоговое значение явки оказалось ниже среднего значения за "нулевые" годы только на 7 пунктов. По всей видимости, "ответственность" за рост явки относительно декабрьского замера и в данном случае следует возложить на мобилизацию белорусского общества российскими СМИ.

Снижение явки относительно выборов 2010 г. произошло за счет группы избирателей, не доверяющих А. Лукашенко: июнь 2010 г. — 49,9%, март 2014 г. — 39,4% (-10,5 пункта). Что касается избирателей, доверяющих А.Лукашенко, то их уровень "политической сознательности" практически не изменился: июнь 2010 г. — 74,5%, март 2014 г. — 73% (-1,5 пункта).

Традиционно высокую электоральную активность продемонстрировали жители села и малых городов — 65,5% и 68,4% соответственно. В Минске явка составила 39,7%.

Явка зависит и от среднего размера доходов, которые приходятся на одного члена семьи. Доходы ниже и выше среднего не способствуют электоральной активности белорусов. Наименее обеспеченные заняты проблемой выживания, им не довыборов. Наиболее обеспеченным уже не до выборов: 1,2 млн рублей — 53,8%, 1,2—1,9 млн рублей — 62,4%, 1,9—3,8 млн рублей — 59,4% и свыше 3,8 млн — 47,6%.

По данным ЦИК, досрочно проголосовало 32% избирателей. Отметим, что официальные результаты досрочного голосования неуклонно повышаются: 2007 г. — 24,9%, 2010 г. — 29,3% и 2014 г. — практически каждый третий.

Данные НИСЭПИ в очередной раз оказались скромнее — 18,9% (табл. 2). Однако от результата 2010 г. они практически не отличаются. Снижение общей явки произошло за счет голосования в основной день выборов.

**Таблица 2. Динамика ответов на вопрос "Когда вы проголосовали?", %**

| Вариант ответа | 01'07 | 06'10 | 03'14 |
|---|---|---|---|
| Проголосовал предварительно | 23.4 | 17.3 | 18.9 |
| Проголосовал в день выборов | 38.5 | 47.3 | 37.9 |
| Не участвовал в голосовании | 37.8 | 35.1 | 43.2 |

Явка на местных выборах в районе 60% по меркам демократических стран считается высокой. В Беларуси высокую явку принято объяснять советским наследием, однако массового предварительного голосования в СССР не было. В связи с этим низкая доля респондентов, утвердительно отвечающих на вопрос табл.3, выглядит подозрительно.

**Таблица 3. Динамика ответов на вопрос "Кто-либо принуждал вас на прошедших выборах голосовать за конкретного кандидата?", %**

| Вариант ответа | 03'03 | 01'07 | 06'10 | 03'14 |
|---|---|---|---|---|
| Да | 3.9 | 4.4 | 4.1. | 4.2 |
| Нет | 90.3 | 94.1 | 94.2 | 87.6 |

Тут возможны два объяснения. Во-первых, многим респондентам (не будем забывать, что это взрослые люди) неудобно признать интервьюеру, что они выполняли свой "гражданский долг" под давлением. Во-вторых, граница между просьбой, рекомендацией и открытой угрозой начальника часто бывает весьма условной. Поэтому то, что человеком европейской культуры будет воспринято однозначно как принуждение, типично советским белорусом будет интерпретировано совершенно иначе.

Парламентские и местные выборы проходят в Беларуси в "скучном режиме". Государственные СМИ, как правило, ограничиваются публикацией официальных сообщений ЦИК при минимуме комментариев. Судя по ответам на вопрос "Были ли, на ваш взгляд, в ходе выборов равные условия у всех кандидатов в депутаты местных Советов?" (табл.4), уровень "скуки" в 2014 г. оказался рекордным, что привело к сокращению доли отрицательных ответов на 6,4 пункта. И это при более низком рейтинге доверия А.Лукашенко: июнь 2010 г. — 54,3%, март 2014 г. — 45,9% (-8,4 пункта).

**Таблица 4. Динамика ответов на вопрос "Были ли, на ваш взгляд, в ходе выборов равные условия у всех кандидатов в депутаты местных Советов?", %**

| Вариант ответа | 03'03 | 01'07 | 06'10 | 03'14 |
|---|---|---|---|---|
| Да | 40.4 | 47.1 | 45.6 | 45.1 |
| Нет | 25.0 | 26.3 | 27.2 | 20.8 |
| ЗО/НО | 34.6 | 26.6 | 27.2 | 34.1 |

О каких преференциях кандидатам власти может идти речь, если избирательная кампания ограничивается официальными сообщениями ЦИК!

При анализе ответов на вопрос табл.5 в первую очередь следует обратить внимание на вариант "не участвовал в голосовании". Доля не участвовавших в голосовании по сравнению с 2010 г. увеличилась на 11,4 пункта, что еще раз подтверждает низкую явку на мартовских выборах.

**Таблица 5. Динамика ответов на вопрос "За какого кандидата вы проголосовали?", %**

| Вариант ответа | 06'10 | 03'14 |
|---|---|---|
| За кандидата — сторонника А.Лукашенко | 31.2 | 22.2 |
| За кандидата — противника А.Лукашенко | 9.4 | 10.2 |
| За иного кандидата | 10.7 | 8.7 |
| Против всех | 5.9 | 5.6 |
| Испортил бюллетень | 0.5 | 0.5 |
| Не участвовал в голосовании | 31.2 | 42.6 |
| Отказался отвечать | 7.9 | 8.4 |
| НО | 3.2 | 1.8 |

За счет пониженной явки голоса "потеряли" кандидаты — сторонники А.Лукашенко. Безусловно, распределение голосов между тремя типами кандидатов (сторонник А.Лукашенко, противник А.Лукашенко, иной кандидат) не следует понимать буквально. Из 24.858 зарегистрированных кандидатов о своей партийной принадлежности заявили только 689 (0,028%). Поэтому 10,2% избирателей не могли голосовать за кандидатов — противников А.Лукашенко. Но обвинять общественное мнение в отсутствии логики — дело неблагодарное и бессмысленное.

Если кандидат, открыто не демонстрирующий свою поддержку главе государства, воспринимается как его противник, то это свидетельствует о популярности черно-белого мышления в расколотом обществе.

Тут напрашивается целый букет объяснений, но мы ограничимся только одним: избиратели не чувствуют своей ответственности за результаты выборов. Они участвуют в мероприятии, конечный результат которого от них не зависит. И поэтому не столь уж важно, доверяют они официальным результатам или нет.

Ответы на следующий вопрос (табл.6) можно рассматривать как дополнение к ответам на предыдущий вопрос (табл.6). В обоих случаях велика доля респондентов, затруднившихся с ответом. Это свидетельство не сложности вопроса, а, скорее, безразличия респондентов.

**Таблица 6. Динамика ответов на вопрос "Оппозиция и независимые наблюдатели утверждают, что в ходе прошедших местных выборов имели место многочисленные нарушения закона и произвол избирательных комиссий. Согласны ли вы с такими утверждениями?", %**

| Вариант ответа | 03'03 | 01'07 | 06'10 | 03'14 |
|---|---|---|---|---|
| Да | 19.6 | 25.7 | 23.8 | 25.5 |
| Нет | 36.0 | 43.4 | 49.7 | 46.4 |
| ЗО/НО | 44.4 | 30.9 | 26.5 | 28.1 |

Приведем еще одну цитату А.Лукашенко, которую мы позаимствовали из его общения с журналистами на избирательном участке 23 марта: **"В Минске, например, как сказал мэр, вчера даже очереди были на избирательных участках, потому что люди уезжали за город и спешили проголосовать. Это говорит о том, что наши люди политически активны, сознательны, люди болеют за мир и стабильность, которые должны быть, и надеются на своих депутатов, верят, что эти мир и стабильность будут сохранены".**

Оставим очереди избирателей на совести мэра белорусской столицы и приглядимся с помощью ответов на вопрос табл.7 к избирателям, которые надеются на своих депутатов. Только около одной трети избирателей (57% от принявших участие в голосовании) в курсе результатов выборов. 11 лет назад таких избирателей было больше половины, но с каждой избирательной кампанией их доля сокращалась.

**Таблица 7. Динамика ответов на вопрос "Знаете ли вы результаты выборов депутатов местных Советов?", %**

| Вариант ответа | 03'03 | 01'07 | 06'10 | 03'14 |
|---|---|---|---|---|
| Да | 51.8 | 48.2 | 42.1 | 32.4 |
| Нет | 45.5 | 46.9 | 51.1 | 63.3 |
| ЗО | 2.7 | 4.9 | 6.8 | 4.3 |

Достоверность ответов, приведенных в четвертой колонке табл.9, подтверждают и ответы на вопрос: "Стал ли депутатом тот кандидат, за которого вы голосовали?": 70,9% респондентов ответить на него затруднились (в 2010 г. — 58,8%), утвердительно ответили 17,7%, отрицательно — 11,4%.

Состояние политической апатии в белорусском обществе нарастает. Этому выводу не противоречит рост позитивных настроений, генерируемых российскими СМИ в марте 2014 года. Мух от котлет необходимо отделять не только во время приема пищи. Динамика политического безразличия, отраженная в табл.7, сформирована фундаментальными причинами. Оно — прямое следствие все большего исчерпания белорусской модели. Рост же позитивных настроений — явление скорее всего временное.

*iiseps.org*

ЭКАНОМІКА

# Чый аўтапрам падтрымлівае беларуская міліцыя?

*Нягледзячы на запуск у Барысаве ўласнай аўтазборачнай вытворчасці, дзяржструктуры пакуль робяць стаўку на імпартную тэхніку.*

Так, напрыклад, МУС Беларусі ў студзені—красавіку 2014 года набыло 187 новых імпартных легкавых аўтамабіляў на суму 65,5 млрд рублёў, тлумачачы гэта неабходнасцю абнаўлення аўтапарка.

Галоўным пастаўшчыком для Дэпартамента фінансаў і тылу Міністэрства ўнутраных спраў у гэты перыяд сталі прадпрыемствы холдынга "Атлант-М". Пра гэта сведчаць дадзеныя па дзяржаўных закупках, размешчаныя на афіцыйным сайце Нацыянальнага цэнтра маркетынгу і кан'юнктуры цэн.

Кампанія "Атлант-М Сухарава" перамагла на аўкцыёнах па пастаўцы 120 аўтамабіляў "Фольксваген Пола" (на 25,4 млрд рублёў) і 12 "Фольксваген Пасат" (3,9 млрд рублёў), а "Атлант-М Баравая" — па пастаўцы 28 машын "Форд Фокус" (на 7,7 млрд рублёў).

Кантракты на пастаўку аўтамабіляў МУС рэалізавалі таксама кампанія "Белатра" (11 "БМВ" на 16 млрд рублёў) і група кампаній "Аўтапрамсэрвіс" (16 "Рэно" на 6,2 млрд рублёў).

Другое месца па аб'ёмах закупак аўтамабільнай тэхнікі за казённыя грошы на пачатку 2014 года заняў "Мінсктранс". Гарадское прадпрыемства атрымала ў свой аўтобусны парк 20 адзінак "Фольксваген Крафтэр Любава". Іх пастаўшчыком стала ТАА "Аўтамабільныя канструкцыі". Кошт кантракта — 17 млрд рублёў.

Трэці па аб'ёмах дзяржзаказ выканалі звязаныя адна з адной барысаўскія кампаніі "Русавтопром" і "Парад Аўто". Яны паставілі 25 санітарных машын (на базе расійскага ГАЗ) для ўпраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама. Сума кантрактаў склала 5,3 млрд рублёў. У мінулым годзе "Русавтопром" выйграў таргі на пастаўку некалькіх дзясяткаў аўтамабіляў для "Белпошты" і "пазікаў" для перавозкі салдат унутраных войскаў.

У стадыі рэалізацыі ў цяперашні час знаходзяцца некалькі кантрактаў, якія выйграла кампанія "Пазадарожнік" для Дзяржпагранкамітэта. Імпарцёр паставіць памежнікам 45 грузавых і легкавых УАЗ, кошт якіх складзе 8,7 млрд рублёў.

**Сяргей ВЕРНІГАРОДСКІ.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# Зарплата доцента меньше зарплаты водителя

Я 30 лет работаю доцентом государственного университета. Готовим очень востребованные кадры для сельского хозяйства. Логично предположить, что передовые позиции Гродненской и Брестской областей в аграрном секторе во многом связаны с работой наших выпускников: хороших агрономов, зоотехников, ветврачей, экономистов. К примеру, три из уже 11 Героев Беларуси закончили наш вуз.

И как же оценивается труд преподавателей, готовящих специалистов высшей квалификации для очень важного для страны сектора экономики? Так вот, должностной оклад доцента, который не повышался последние два года, составляет 1.345.000 рублей. У профессора несколько выше, а у ассистента значительно ниже. В размер окончательной зарплаты входят еще доплаты за ученую степень, за ученое звание, за стаж. За успешную научно-методическую работу могут быть индивидуальные премии, согласно рейтинговой оценке. Например, 20—50% от оклада. Всего в сумме на карточку доцент получает около четырех миллионов рублей.

Рассмотрим краткосрочные и долгосрочные последствия такого неуважения к научно-педагогическим кадрам. Понятно, что люди с мозгами не могут жить на такой доход и вынуждены дополнительно зарабатывать. Хорошо, если на законной основе. Кто-то стал индивидуальным предпринимателем, кто-то — председателем ЖСПК по месту проживания, кто-то выращивает и продает саженцы плодовых деревьев и ягодников и т.д. Если ты хороший экономист, юрист, историк, то можно преподавать в нескольких местах. Но это будет уже не преподаватель, а урокодатель, бегающий с портфелем из одного учебного заведения в другое. А если у тебя узкая специальность, то и такой возможности нет. Скажите, а когда заниматься научной и методической работой, повышать свой уровень, следить за новинками в своей области знаний? В результате, несомненно, страдает уровень подготовки кадров. Хотя многие преподаватели, особенно старой закалки, стараются держаться на уровне.

О проблемах с набором студентов говорилось не один раз. В непрестижные вузы поступают учиться очень слабые абитуриенты, у которых низкая мотивация к ежедневному учебному труду. Встречающиеся золотые крупинки стараемся сориентировать на продолжение учебы в магистратуре и затем в аспирантуре. В ответ слышим логичный встречный вопрос: и что — в итоге многолетнего напряженного труда защищу кандидатскую диссертацию, буду получать нищенскую зарплату и искать приработок? В результате лучшие выпускники идут в бизнес, милицию, становятся строителями-ремонтниками и т.д., идут туда, где можно больше заработать. А наша страна теряет важный научный потенциал. Правда, в магистратуре свободных мест не бывает. Мотивация при поступлении разная: чтобы не ехать в деревню по распределению, в надежде на возможные кардинальные изменения в стране. Встречаются и энтузиасты-романтики.

Но это еще не все негативные последствия низкой оплаты труда научных сотрудников. Самых лучших молодых ученых сманивают хорошей зарплатой представительства зарубежных фирм, занимающиеся в Беларуси продажей средств защиты растений, удобрений, стимуляторов роста и прочего. Уходят к ним ассистенты, доценты и даже заведующие кафедрами. В этой связи хочу привести высказывание одного успешного фермера, который в поиске новинок в технологии участвует во многих семинарах в стране и за рубежом. Так вот он говорит, что обидно слушать, как наши толковые молодые и не совсем молодые сотрудники с пеной у рта пропагандируют препараты зарубежных фирм. Он им задал вопрос: что же вы не разработаете свое и его не внедряете? Вы же ученые, кандидаты наук! Стране ох как нужно импортозамещение, экономия валюты. Ответ, как говорится, смотри выше. К тому же на научные исследования в университете бюджетного финансирования почти нет, проводить научную работу по хоздоговорным темам весьма сложно из-за отсутствия или скудости свободных денег в субъектах хозяйствования, особенно в сельском хозяйстве. А без денежной подпитки научное творчество сохнет.

По телевидению мы не раз слышали высказывания высокого начальства о том, что главное наше богатство — высокий интеллектуальный потенциал людей. Об этом говорили на последнем совещании в Академии наук 31 марта. И это действительно так. Есть много стран, подобных Беларуси по территории и бедности полезных ископаемых. Успеха они достигли за счет свободного предприимчивого высокоинтеллектуального труда своих граждан, который адекватно вознаграждается. Так почему у нас такое отношение к научным сотрудникам? Зарплата водителя легкового автомобиля в строительной организации 6—8 миллионов, а у доцента университета — 4 миллиона. В середине 80-х годов прошлого столетия, когда я начинал работу в вузе, доцент получал 320 рублей, а средняя зарплата по стране (СССР) была 150—170 рублей. А сейчас все наоборот. Считаю, что это недальновидная политика.

**Иван МЕЛЕХОВЕЦ.**

*Гродно.*

ЗАЦЕПИЛО

## *«Лукавая» статистика*

Прочла в “Народной Воле” заметку об отдыхе в белорусских санаториях. Чиновники преподносят данные: примерно 50 на 50 отдыхает в санаториях белорусов и россиян.

Но есть и другие данные: в летний период в белорусских здравницах отдыхают и лечатся примерно 90 процентов россиян. А мы, белорусы, пользуемся тем, что построено и оборудовано за наши налоги, по остаточному принципу — в холодный весенне-осенне-зимний период. Вот такая политика нашего социально ориентированного государства, в котором все, как звучит с высоких трибун, — для народа. Только для какого народа?

**Розалия РУБИНЧИК.**

*Минск.*

ПАМЯЦЬ

# Сустрэча з паэтам

## *і яе адгалоскі*



Я неаднойчы запрашаў Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна прыехаць да мяне ў госці. Ён мой любімы паэт, я зачытваюся ягонымі вершамі, адметнымі сваёй мілагучнасцю, музычнасцю, глыбіннай філасофіяй, напоўненымі шчырымі пачуццямі павагі і пашаны да чалавечай працы, любові да бязмерна дарагой яму Беларусі. У 1997 годзе Генадзь Мікалаевіч даў мне рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі (тады яшчэ дзялення пісьменнікаў на два саюзы не было). І я вельмі ўдзячны яму за такі давер, як і народнаму паэту Беларусі Максіму Танку (майму земляку), які яшчэ ў 1995 годзе рэкамендаваў мяне ў пісьменніцкі саюз.

І вось 7 верасня 2010 года мы сустрэліся ў маёй вёсцы. Генадзь Мікалаевіч з вялікай цікавасцю азнаёміўся з Камайскім касцёлам — помнікам архітэктуры пачатку XVII стагоддзя. Выклікаў у яго цікавасць і сквер у цэнтры вёскі з яго дарожкамі, выкладзенымі цэментнымі пліткамі, а таксама ліхтары ў форме вялізных шароў з пластмасы. Жалезныя стаякі, на якіх мацуюцца ліхтары, аздоблены лісцем і гронкамі вінаграду, вырабленымі з тоўстай бляхі. Гэтую прыгажосць — 13 ліхтароў — падарыў жыхарам вёскі Камаі мясцовы ўмелец Анатоль Рыгоравіч Трафанчук. А сквер набыў свой новы выгляд у многім дзякуючы намаганням ксяндза Яцэка Хутмана. Усё гэта я гавару к таму, што быў вельмі рады паказаць сталічнаму госцю, песняру беларускай зямлі, што і мы ў Камаях не спім у шапку, стараемся ісці ў нагу з жыццём, робім яго прыгажэйшым.

Генадзь Мікалаевіч вельмі хацеў сустрэцца з вучнямі Камайскай сярэдняй школы, пагутарыць з імі, пачытаць ім свае вершы, даведацца, можа, і з іх хто што-небудзь піша.

Кіруемся ў школу. Я загадзя папярэдзіў кіраўніцтва школы, што прыедзе Генадзь Бураўкін і, вядома ж, трэба наладзіць з ім сустрэчу настаўнікаў і школьнікаў. Заходзім у мясцовы храм навукі, ідзём па калідоры, вяду свайго госця ў школьную бібліятэку. Пакуль Генадзь Мікалаевіч гутарыў з бібліятэкарам, я знайшоў завуча школы, сказаў яму пра сталічнага госця і запытаўся, дзе знайсці дырэктра школы (ішоў недзе трэці ўрок). Але намесніца дырэктара Ірына Іванаўна Януковіч сказала, што не ведае, дзе ён знаходзіцца. Як аказалася, кіраўнік школы Генадзь Альбінавіч Рамбальскі проста “смотал удочки”, каб быць “подальше от греха”.

Я тут жа іду ў настаўніцкую, набіраю нумар тэлефона намесніка старшыні Пастаўскага райвыканкама па ідэалагічных і сацыяльных пытаннях Алы Эдмундаўны Кейзік і прашу ў яе дазволу на сустрэчу школьнікаў з паэтам Генадзем Бураўкіным, паколькі кіраўніцтва школы самастойна гэтае пытанне не бярэцца вырашаць. І атрымліваю катэгарычную адмову. “Чаму нельга?” — пытаюся. “Нельзя — и всё!” — быў адказ. Пасля некалькіх секунд маўчання ў тэлефоннай трубцы пачулася: “Можете организовать встречу с поэтом в камайском Доме культуры”. Не пайшла Ала Эдмундаўна насустрач мне, свайму настаўніку, які вучыў яе з пятага па восьмы клас, ганарыўся ёю — выдатніцай вучобы, актыўнай удзельніцай мастацкай самадзейнасці.

Дырэктара школы дарэмна было чакаць — ён ужо сам пазваніў Але Кейзік і атрымаў ад яе адпаведнае ўказанне: апазіцыянераў у школу не пускаць!

Што было рабіць? Такі момант — жывы класік беларускай літаратуры ў Камаях, звычайнай вёсцы. Трэба сабраць хоць 10—15 чалавек, няхай паслухаюць слыннага паэта, раскажуць пра свае ўражанні іншым. Памятаю, як дзесьці ў 1962 годзе падчас жнівеньскай настаўніцкай канферэнцыі, што праходзіла ў Паставах, перад педагогамі выступілі паэты Алесь Ставер і Міхась Скрыпка. Як іх слухалі настаўнікі, якія былі апладысменты! І для мяне гэтая сустрэча сталася небывалым святам, якое не забываецца па сённяшні дзень.

Я хуценька аббег бліжэйшыя дамы, запрасіў у Дом культуры на сустрэчу з паэтам усіх, хто быў не на рабоце, не забыўшы сказаць, што будзе для іх сустрэча са сталічным госцем і цікавай, і карыснай.

Заходзім у Дом культуры, у зале чалавек пад 20 — у асноўным жанчыны, і ні аднаго вучня, як і самога дырэктара школы з яго жонкай Леанардай Міхайлаўнай. А яна ж выкладчыца беларускай мовы і літаратуры, ёй жа сам Бог вялеў убачыцца з паэтам і, магчыма, пагаварыць з ім па набалелых пытаннях, якія тычацца стану выкладання беларускай літаратуры ў школе! І ўсё ж наперакор дырэктару школы на сустрэчу з паэтам прыйшла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Святлана Антонаўна Урбанайць ды яшчэ з дзвюма настаўніцамі, сваімі сяброўкамі.

На пачатку сустрэчы з паэтам загадчыца бібліятэкі Ала Іосіфаўна Каравацкая расказала аб ягоным жыццёвым і творчым шляху. Я прачытаў свой верш пад назвай “У ноч з 27 на 28 жніўня” (Генадзь Мікалаевіч толькі што адзначыў свой дзень народзінаў), спецыяльна напісаны да такой падзеі, першыя тры страфы якога я хачу прывесці:

*Жнівеньская ноч, я, адагнаўшы сон,*
*Бураўкіна зноў перачытваю.*
*Чую, як звяртаецца да Бога ён*
*Са шчыраю сваёй малітваю.*

*Просіць захінуць спакоем і цяплом*
*Радзімы край наш — продкаў спадчыну.*
*Сам я ўсім святым гатовы біць чалом,*
*Жыла каб толькі мова матчына.*

*Магія жытнёвых сцежак, хлебных ніў,*
*Краіна наша з мілай назваю —*
*Хораша пра ўсё, што бачыў і чым жыў,*
*Паэт даверліва расказвае.*

Генадзь Бураўкін чытаў вершы са сваёй новай кнігі “Лісты да запатрабавання” і з кнігі “Выбраныя творы”, якая пабачыла свет у 2009 годзе ў выдавецтве “Беларускі кнігазбор”. Былі і пытанні, у тым ліку і пра тое, як пішуцца вершы, ці прысвячаюцца яны членам сям’і, у прыватнасці жонцы. Генадзь Мікалаевіч падрабязна расказаў пра сваю сям’ю, пра тыя каштоўнасці, якія спавядаюць ягоныя дамачадцы.

Калі Бураўкін адказаў на ўсе пытанні слухачоў, да стала, за якім ён знаходзіўся, накіравалася настаўніца Святлана Антонаўна Урбанайць і, шчыра дзякуючы паэту за дастаўленыя хвіліны асалоды, уручыла яму паўлітровы слоік мёду са сваёй пасекі (на вялікі жаль, Святлана Антонаўна на пачатку красавіка 2012 года раптоўна памерла — яна мела 41 год).

Старшыня Віцебскай абласной рады ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны” Іосіф Навумчык расказаў пра справы гэтай арганізацыі, пра тое, што робіцца для пашырэння ўжывання роднай мовы.

Жадаючыя набылі кнігу Генадзя Бураўкіна “Лісты да запатрабавання”, атрымалі ягоны аўтограф.

І як не аддаць належнае Генадзю Мікалаевічу: пагадзіўся выступіць перад нешматлікай аўдыторыяй. Мне вядомы выпадак, калі масціты, знакаміты паэт заявіў: “Не будзе ў зале чалавек 300—400, я выступаць не буду”.

Сустрэча прадоўжылася ў мяне на кватэры за сяброўскім сталом. На развітанне я праспяваў дарагім гасцям беларускія песні.

Выйшлі на вуліцу. Быў ціхі, цёплы вечар. За руль легкавушкі сеў Анатоль Леанідавіч Родзік, кандыдат гістарычных навук, былы выкладчык Віцебскага педагагічнага ўніверсітэта імя П.М.Машэрава. Правёўшы паэта з ягонымі сябрамі, я вярнуўся дахаты. І ўпершыню з такой яснасцю, так усвядомлена паўтараў бураўкінскае:

*Божа, захіні маю Радзіму*
*Мудрасцю, спакоем і цяплом.*

**P.S.** А мяне ўсё-ткі за добрае стаўленне да Генадзя Бураўкіна “пакаралі”. На наступны, 2011, год, калі я адзначаў свой 75-гадовы юбілей, з райвыканкама (вядома ад каго) паступіла ўказанне рэдактару раёнкі “Пастаўскі край” не даваць у газеце мой фотаздымак і падборку вершаў з нагоды майго дня нараджэння (а дагэтуль мяне віншавалі ў газеце, калі мне было 60, 65, 70 гадоў). І гэта нягледзячы на тое, што я ў 2009 годзе напісаў гімн горада Паставы, словы якога паклаў на музыку народны артыст Беларусі Леанід Захлеўны, і паэму “Горад музыкі і сонца”, прысвечаную 600-годдзю горада Паставы, якая была выдадзена ў Маладзечне асобнай кніжкай. Гэтая кніжка падчас Міжнароднага фестывалю “Звіняць цымбалы і гармонік”, які штогодна праводзіцца ў Паставах, была ўручана кіраўнікам творчых калектываў з Беларусі, краін Балтыі, Украіны, Венгрыі, Італіі, Венесуэлы, а затым сакратару па культуры Пасольства Японіі ў Рэспубліцы Беларусь спадарыні Тамока Ханада. Пэўна, мае суддзі кіраваліся ісцінай: “Скажы, хто твой сябра, і я скажу, хто ты”.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ,**
**член Саюза**
**беларускіх пісьменнікаў.**

### АД РЭДАКЦЫІ

**На жаль, апошнім часам Генадзь Мікалаевіч Бураўкін пачувае сябе не самым лепшым чынам. Таму хочацца пажадаць яму лепшых дзён, моцы і аптымізму. Трамайцеся, даражэнькі!**

РЭХА

## *Запаветны напеў, далячыняў смуга...*

Дарагая рэдакцыя “Народнай Волі”!

З задавальненнем пазнаёміўся з перакладам на беларускую мову знакамітай па выкананні мулявінскіх “Песняроў” песні “Белавежская пушча”. Пераклад з рускай зрабіў шаноўны чытач “Народнай Волі” Леанід Зубараў. Мне вельмі спадабаўся ягоны тэкст. Аўтар знайшоў пранікнёныя і трапныя словы, якія, што называецца, кладуцца на душу і сэрца.

Але ж хацелася б нагадаць, што ёсць і ранейшы пераклад гэтай песні. На жаль, аўтар гэтага перакладу мне не вядомы. Магчыма, ён належыць камусьці з беларускіх паэтаў замежжа. А песню з любасцю слухаю ў запісе спеваў беларускага салаўя Данчыка (Багдана Андрусішына). Думаю, гэтыя цудоўныя словы вартыя вашай увагі.

### Белавежская пушча

*Запаветны напеў, далячыняў смуга*
*У чаканні зары, што заблішча сляпушча...*
*Як свая, мне твая векавая туга,*
*Белавежская пушча, Белавежская пушча.*

*Тут забыты даўно наш прабацькаўскі схоў.*
*І часамі, той кліч нашых продкаў пачуўшы,*
*Шэрай птушкай лясной з дальнадаўніх вякоў*
*Да цябе пасляшаю, Белавежская пушча.*

*Ледзьве значным слядком да крыніцы брыду*
*Праз дрыгву, трыснягі, хмызняковыя гушчы.*
*Як алені, з калень п’ю жывую ваду*
*Роднай праўды твае, Белавежская пушча.*

*Адагрэю душу ля высокіх дубоў*
*Ды на ўцеху жывым — і сляпым, і відушчым —*
*Панясу твой напеў запаветны дамоў,*
*Белавежская пушча, Белавежская пушча.*

Праўда прыгожа? Не горш за рускамоўны варыянт. Жадаю вам, дарагія сябры, усяго самага найлепшага!

**З павагай —**

**Сяргей ГЕРАСІМЧЫК.**

*Мінск.*

РЭЗАНАНС

## *Многае залежыць ад таго, хто на зямлі гаспадарыць*

З вялікай увагай прачытаў у “Народнай Волі” за 25 сакавіка рэзанансны артыкул Мікалая Юркова, былога старшыні калгаса “Дрыбінскі” Дрыбінскага раёна, пад загалоўкам “Травы, травы, травы... Дзе вы?”. Аўтар сцвярджае, што аграрыям трэба не толькі рэалізоўваць цэлы комплекс тэхналагічных мерапрыемстваў, але і цалкам замяніць старую, але жывучую сістэму гаспадарання. А дакладней — на зямлі павінен быць гаспадар-уласнік, а не карыстальнік. Змяніць шыльду “калгас” або “саўгас” на “СПК” — гэта не вырашэнне існуючай праблемы, піша аўтар.

Стопрацэнтна згодны, што калгасна-саўгасная сістэма дэградзіравала і даўно патрабуе эфектыўнай лібералізацыі. Аднак нельга сцвярджаць, што ў гэтым напрамку нічога не робіцца. Пакрысе змяняюцца формы і метады гаспадарання, і гэта прыносіць пэўны плён.

Лічу, поўнасцю сябе апраўдала тое, калі да эканамічна моцных прадпрыемстваў прывязваюцца, хай сабе і сілавым метадам, слабыя гаспадаркі.

Прывяду даволі вядомы прыклад з агракамбінатам “Дзяржынскі”, паколькі сам амаль дзесяць год адпрацаваў на бройлернай птушкафабрыцы і на свае вочы бачыў, як усё адбывалася. Былы дырэктар-пенсіянер В.П.Груша, калі размова зайшла аб далучэнні да агракамбіната адсталага (быў на мяжы банкруцтва) калгаса з камуністычнай назвай “імя Леніна”, і слухаць аб гэтым не хацеў: маўляў, навошта яму лішні клопат? У агракамбінаце справы больш-менш ладзяцца, а ў калгасе... Землі бедныя, неўрадлівыя, у асноўным пясчаныя, збіралі на круг па 15—20 цэнтнераў збожжа, а жывёлаводы надойвалі ў разліку на карову ўсяго 1,5—2 тысячы кілаграмаў малака. Тагачасны кіраўнік гаспадаркі Мікалай Козел не змог правільна сарыентавацца ў той сітуацыі, як кажуць, апусціў рукі.

Кардынальныя змены адбыліся ў адстаючай гаспадарцы, калі яе ўсё ж далучылі да агракамбіната “Дзяржынскі”. Яго новы кіраўнік, малады, энергічны, высокапрафесійны Сямён Шапіра ўзяў пад сваю апеку не толькі былы калгас імя Леніна, але яшчэ чатыры гаспадаркі так званай Фаніпальскай зоны. Дарэчы, гаспадаркі Путчынскай зоны ўзялі пад сваё крыло агракамбінат “Ждановіцкі”, Беларуская чыгунка і іншыя.

Што цікава, сёння тыя землі, якія раней давалі 15—20 цэнтнераў з гектара, даюць 40—50 цэнтнераў.

Для чаго я гэта расказваю? Каб пацвердзіць думку таго ж Мікалая Юркова: многае залежыць ад таго, хто гаспадарыць на зямлі. І яшчэ — не трэба знішчаць эканамічна моцныя сельгаспрадпрыемствы, няхай сабе і з дзяржаўнай формай уласнасці.

Нядаўна наведаўся на сваю малую радзіму — у Шклоўскі раён. Не пазнаў роднага кутка. Жыццё ў некалі вялікай вёсцы Тударава, дзе прайшло маё дзяцінства, фактычна замерла. Была школа-пачатковая — знеслі. Быў дзіцячы садок — закрылі, магазін — таксама. Перасталі існаваць жывёлагадоўчыя фермы...

Весці гаворку аб перадачы тутэйшай зямлі ў прыватныя рукі няма сэнсу. Гэта трэба было рабіць значна раней, калі вёска яшчэ жыла і там было шмат працоўных рук. Дай Бог, каб больш моцная гаспадарка, да якой далучылі былы наш калгас “Радзіма”, выкарыстала вопыт агракамбіната “Дзяржынскі” і падставіла надзейнае плячо сваім землякам.

Хто-ніхто спадзяецца на аграгарадкі. А я з песімізмам гляджу на гэтую задуму. Колькі ў іх пражывае людзей з іншых мясцін і нават бежанцы! Шмат дамоў наогул пустуюць, а зямля на многіх прысядзібных участках зарастае пустазеллем. Калі ў чалавека няма кораня, калі яго не звязвае з гэтай зямлёй нешта адвечнае, то і да работы ён будзе ставіцца абыякава.

Многія бачаць выйсце ў фермерстве. Але яно пакуль за межамі дзяржаўнай палітыкі, сутыкаецца з мноствам бар’ераў і цяжкасцяў, такіх як набыццё крэдытаў, пакупка сельгастэхнікі, продаж прадукцыі... Ды і гаспадарыць яны далёка не на лепшай зямлі.

Такім чынам, падагульняючы, варта прызнаць, што простай перадачай зямлі ў прыватныя рукі праблема не вырашыцца. А нейкіх суперрадыкальных крокаў да грунтоўнага рэфармавання аграрнай сістэмы не прадбачыцца. Зямля ў нас яшчэ доўгі час будзе ў руках чыноўнікаў. А ў іх свае інтарэсы — як утрымацца ў кіруючых крэслах...

**Анатоль ШАРАЕЎ, ветэран працы.**

*г.Фаніпаль.*

ВІНШУЮ!

## *Віват жанчыне!*

Нядаўна адзначыла сваё 75-годдзе вядомая ў нашай краіне тэлевядучая Зінаіда Бандарэнка. Я згодны з журналісткай Марыяй Эйсмант, што гэта адна з самых прыгожых і знакамітых жанчын Беларусі.

Чаму я так лічу? Таму што гэтая жанчына ніколі не здрадзіла свайму сумленню, сваёй жыццёвай пазіцыі, сваёй роднай мове. Цяперашняя ўлада звольніла яе з працы, лічы, за палітычныя погляды. Зінаіда Аляксандраўна не стала дрыжэць ад страху, пісаць пакаянныя пісьмы. Яна стала проста жыць і верыць, што Беларусь хутка вернецца на свой ідэнтычны гістарычны шлях еўрапейскага народа.

...У 1972 годзе я працаваў у Маларыцкім раёне. Неяк летам каля адной з вёсак сталічныя артысты давалі канцэрт з нагоды Дня моладзі. Вядучай была згаданая мной Зінаіда Бандарэнка. Яна была апранута ў сукенку з вытканым беларускім арнаментам. І гэтая імпрэза мне запомнілася на ўсё жыццё не артыстамі, а менавіта маладой і прыгожай, як кветка васілёк, вядучай.

Ад усяго сэрца віншую Зінаіду Аляксандраўну з 75-годдзем! Жадаю ёй яшчэ доўгіх гадоў жыцця, здароўя і радасці ад унукаў.

**Аляксей Іванавіч БУЦЬКО.**

*Гродна.*

КРЫЎДА ВЕТЭРАНА

# Адбіраць дык адбіраць,

## *або Класічны ўзор класічнага словаблудства*

Як вядома, з 1 студзеня гэтага года ўступіў у дзеянне закон пра дарожную пошліну. Паколькі ў такім выглядзе ён закранае інтарэсы і асабіста мае, і іншых ветэранаў, то я ў канцы лютага звярнуўся ў Адміністрацыю прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з лістом на гэты конт.

У лісце зазначыў, што вышэйназваны закон, на мой погляд, не адпавядае ранейшым указанням кіраўніка дзяржавы аб усебаковым клопаце пра ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай.

Скажу адразу: лічу дарожную пошліну мерай патрэбнай і заканамернай. Але, на мой погляд, прыняты закон стрыжэ ўсіх пад адзін грабеньчык. Бо прабег аўтамабіля ў кагосьці ледзь дасягае двух-трох тысяч кіламетраў, у кагосьці такі прабег цягне на 30 тысяч і болей. Плата ж для кіроўцаў — аднолькавая.

Між тым з усіх бакоў грамадству не забываюць напамінаць: 2014 год — юбілейны, 70-ы год вызвалення беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкай акупацыі. Не за гарамі і наступны, 2015-ы, калі адзначым 70-годдзе нашай святой Вялікай Перамогі, дарогу да якой мы з таварышамі мералі ўласнымі крокамі, а то і паўзком пад свінцовай віхурай. Цяпер нас засталося мала, а тыя нямногія, што дажылі да сённяшніх дзён, зараз не заўжды і з дзясятак крокаў могуць зрабіць. І вось такія інваліды, якія сябе не шкадавалі ў бітве з лютым ворагам, адчуваюць сябе пакрыўджанымі той ураўнілаўкай, пра якую я ўжо сказаў. Для некаторых з іх, хто дапушчаны да кіравання транспартнымі сродкамі (а такіх на сучасны момант — літаральна адзінкі ў кожным раёне краіны), паратункам ад бездапаможнасці служыць аўтамабіль. І тое, што на іх накладзены такі ж самы дарожны падатак, як і на маладых здаровых людзей, — пытанне, лічу, не столькі фінансавае, колькі маральнае. Пытанне сапраўднага стаўлення ў грамадстве да заслужаных людзей. Кажу не толькі аб сабе.

Адказ з Адміністрацыі прэзідэнта я атрымаў даволі хутка. У ім значыцца: *“Ваше обращение, поступившее в Администрацию Президента Республики Беларусь, направлено Аппарату Совета Министров Республики Беларусь с поручением сообщить Вам о результатах рассмотрения”.*

Не прымусіў сябе чакаць і адказ з Савета міністраў ад начальніка аддзела па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб **А.П.Коўшара.** А там — ужо знаёмая адсылка майго пісьма, так бы мовіць, уніз па лесвіцы. Яно *“направлено для рассмотрения в Министерство финансов с просьбой сообщить Вам о результатах”.*

Урэшце, маю і адказ з гэтага міністэрства. Чытаю — і адчуваю, што намеснік міністра **У.В.Татарыновіч** наўрад ці чытаў мой ліст у Адміністрацыю прэзідэнта, а ўзяўся, знешне ветліва-паважальна, на двух аркушах уборыстага тэксту тлумачыць мне, неразумнаму, чаму патрэбны дарожны падатак і што ён існуе ва ўсіх краінах. А яшчэ як з гэтым справы ў Расіі, Казахстане і гэтак далей... Ды хіба я сам таго не ведаю?

Заканчваецца гэты опус узорам класічнага словаблудства: *“Вопросы установления дополнительных льгот по государственной пошлине за выдачу разрешения на допуск транспортных средств к участию в дорожном движении для физических лиц будут рассмотрены по результатам анализа практики применения норм Налогового кодекса”.* Вось так: я — пра Фаму, мне — пра Ярому. А пра такую катэгорыю грамадзян, як ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, да якой належу і я — адзіны ў Слаўгарадскім раёне ветэран-аўтаўладальнік, — у адказе з міністэрства ні слова. Зразумела: я ўсяго толькі “физическое лицо”. А паколькі гэтаму “физическому лицу” вось-вось стукне 88, то надзея дачакацца *“результатов анализа практики применения норм Налогового кодекса”,* скажам прама, даволі ўяўная.

Падобна, не адзін я маю перад сабой такую “светлую” перспектыву, таму б хацеў былых франтавікоў-пабрацімаў падтрымаць сваіміココвершаванымі радкамі. Мо яны крыху суцішаць крыўду ад сутыкнення з чыноўніцкім неразуменнем па прынцыпе “адбіраць дык адбіраць”. Звяртаюся да ўсіх абаронцаў Радзімы, хто прайшоў праз вайну і заслугоўвае павагі і ўвагі ад усіх-усіх і ва ўсім-усім — вялікім і малым. Думаю і спадзяюся, што мой голас пачуюць не толькі састарэлыя, ужо нямоглыя колішнія байцы і партызаны, а і наша моладзь, якая яшчэ не аглухла, не згубіла чуласць сэрца да вызваліцеляў-пераможцаў.

*Ты дороги родной страны*
*Своей кровью в годы войны*
*Окропил — и вернулся домой.*
*Вся родня гордилась тобой!*
*И не думал, что время придет —*
*В юбилейный торжественный год*
*Ты получишь в подарок...*
*дорожный налог.*
*Чтобы помнил, не забывал*
*Те дороги, что кровью*
*своей омывал.*

**Фелікс Уладзіміравіч ШКІРМАНКОЎ,**
**інвалід ВАВ ІІ групы,**
**ганаровы ветэран,**
**пенсіянер за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь,**
**кавалер баявых ордэнаў і медалёў.**

*г.Слаўгарад.*

